
Яраслаў ПАДОЛЕЦ→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вялікдзень у мінулым→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3336) Год LXV Беласток, 19 красавік 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Вялікдзень у Праваслаўнай царкве

Вялікдзень у Праваслаўнай царкве (у 2020 годзе 19 красавіка) — сэрца ўсяго гадавога літургічнага цыкла, самае важнае свята, якое называюць святам свят і ўрачыстасцю ўрачыстасцей. У праваслаўі падкрэсліваецца асаблівае значэнне ўваскрэсення Хрыста, якое дало сэнс зямному жыццю. Пры нагодзе велікодных святкаванняў, якія выказваюць радасць ад уваскрэсення Госпада і адначаснага прыходу вясны, спяваюцца шматлікія песні. Праваслаўныя святкуюць Вялікдзень вельмі радасна, лічачы, што разам з уваскрэсеннем Хрыста вяртаюцца ўсе жыватворныя сілы ў прыродзе.

Велікодную радасць папярэджвае доўгі і сумны перыяд Вялікага посту, які рыхтуе вернікаў да пасхальнай містэрыі. Калісь у час посту забаранялася — з выключэннем дзяцей і хворых — спажываць мяса і жывёльны тлушч, у тым ліку і малако.

Вялікі тыдзень — апошні тыдзень Вялікага посту. У перадвелікодную нядзелю адзначаем уезд Гасподні ў Іерусалім і ў памяць гэтай падзеі падчас набажэнства асвячаюцца пальмы — вярбовыя галінкі. У народзе свята называюць Пальмавай або Вербнай нядзеляй — Вербніцай. Звычай свяціць пальмы прыйшоў да нас з Захаду ў сярэдневякоўі, а пальмавыя лісты замянялі вярбовымі, малінавымі або парэчкавымі развіваючыміся галінкамі. Зараз пальмы, часта штучныя, можна купіць на базарах.

Цягам стагоддзяў асвечаным пальмам прыдаваліся шматлікія магічныя ўласцівасці, у якіх захавалася рэха старажытных дахрысціянскіх забабонаў.

У Вялікім тыдні абавязваў строгі пост — у сераду і пятніцу здаровыя людзі карміліся толькі хлебам і вадою, а ў суботу некаторыя зусім не елі.

Пасля Вербніцы набажэнствы маюць сумны характар і вернікі смуткуюць па прычыне Хрыстовых пакут. У Вялікі чацвер вечарам у цэрквах чытаецца дванаццаць фрагментаў Евангелля пра Хрыстовы пакуты, пасля якіх хор спявае ўрачыстыя песні, у тым ліку „Разбойнік". Вернікі ў той час трымаюць у руках запаленыя свечкі, якія пасля набажэнства стараюцца данесці дадому. Паводле павер'я, данесены агонь прадвяшчае поспех на цэлы год. Раней многія людзі абыходзілі тры разы сваю хату з запаленай свечкай.

У Вялікую пятніцу здзяйсняецца абрад вынасу плашчаніцы з выявай пакладзенага ў труну Хрыста, пасля чаго вернікі дакранаюцца да яе і цалуюць.

У Вялікую суботу пасля богаслужэння бацюшка едзе ў аддаленыя вёскі пасвяціць пасху — яйкі, мяса, печыва і іншыя стравы. Калісь людзі рыхтавалі пасху ў вялікіх капаньках, а зараз сімвалічна — у кошычках.

Каля поўначы перад Гасподняй магілай, якая знаходзіцца пасярэдзіне царквы, праваслаўныя прыходзяць, каб сустрэць ... 

Каля поўначы перад Гасподняй магілай, якая знаходзіцца пасярэдзіне царквы, правіцца ютрань Вялікай суботы, якую называюць Іерусалімскай. Магілу з плашчаніцай упрыгожваюць кветкі і шматлікія свечкі. Святочная, урачыстая Вялікая субота працягваецца ўсяночнай. Вернікі стаяць у царкве ў поцемках і сумуюць з-за Хрыстовых пакут.

Паводле павер'я на хрысціянскім Усходзе паўторны прыход Хрыста адбудзецца менавіта ў пасхальную ноч. Апоўначы найстарэйшы чынам бацюшка заносіць плашчаніцу ў алтар, што абазначае канец Вялікага посту.

Велікодную ютрань свяшчэннікі пачынаюць спевам „Уваскрэсенне Тваё, Хрысце Збавіцелю...", пасля чаго адкрываюцца царскія вароты, пачынаюць біць званы, а вернікі выходзяць з храма на хрэсны ход. На той час зачыняюць дзверы царквы. Духавенства ў белых аблачэннях і вернікі тройчы абыходзяць храм. Затым святар спявае велікодны трапар перад зачыненымі дзвярамі і адчыняе іх крыжам, а з царквы ў той момант праліваецца радасная светласць. Ужо ў царкве бацюшка словамі „Хрыстос уваскрос" аб'яўляе радасную навіну аб уваскрэсенні Госпада, а вернікі тройчы адказваюць „Сапраўды ўваскрос". Аднachасна выказваюць яны ўзаемныя пажаданні пасхаў, пры чым цалуюцца тройчы, што з'яўляецца сімвалам даравання крыўдаў.

Літургія ў гэту радасную велікодную ноч канчаецца каля шостай гадзіны раніцы. У канцы набажэнства бацюшка асвячае пасху сабраўшымся вакол царквы вернікам.

Светлы тыдзень гэта перыяд асаблівай прысутнасці Хрыста ў сваёй Царкве. Пра гэта напамінае той факт, што царскія вароты ў храмах астаюцца ў гэты тыдзень адчыненымі. Доказам радасці ад уваскрэсення з'яўляецца забарона станавіцца на калені і біць паклоны.

У праваслаўі ў велікодны перыяд моцна падкрэсліваецца лучнасць жывых з памерлымі. Даўней, непасрэдна перад усходам сонца, людзі пасля выхаду з храма наведвалі магілы блізкіх, перадавалі ім вестку аб уваскрэсенні Хрыста, запальвалі свечкі. Яшчэ даўней людзі здзяйснялі г.зв. радаўніцу, калі ішлі на магілы блізкіх, рассцілалі на іх абрусы, ставілі няпарную колькасць страў, палівалі магілу гарэлкай і запрашалі нябожчыкаў у гасціну. У ліку страў заўсёды былі мёд, тварог, грэцкія бліны, каўбаса або вэнджанае свіное мяса. Людзі верылі, што разам з вясною прабуджаюцца памерлыя, якіх трэба было падмагаваць і правесці з імі святочны час. Сёння аджыла ўжо тая традыцыя, няма частавання на магілах. Зараз людзі наведваюць магілы блізкіх на трэці дзень Вялікадня і ўжо мала хто пакідае на магілах яйкі і рэшткі святочных страў, якія потым з'ядаюць птушкі і звярына. Могілкі, напрыклад, у Орлі, наведвае некалькі святароў, а людзі вядуць іх на магілы блізкіх і сімвалічна плацяць за кароткую малітву; ад некалькіх гадоў дзееца так і 1 лістапада.

Людзі, вяртаючыся з могілак, усіх напатканых вітаюць словамі „Хрыстос уваскрос". Даўней так віталіся цягам сарака дзён, да Узнясення Гасподняга. Зараз так вітаюцца адзін або некалькі дзён і спарадычна з некаторымі крыху даўжэй.

Міхал МІНЦЭВІЧ

---

Дарыюш ЖУКОЎСКІ

* * *

Ідзем разам вакол царквы,
Вецер дзьме ад ракі,
Мы ідзем без шапак,
Якія ў кішэнях,
Абыходзім будынак у тры разы,
Чакаючы Уваскрэсення,
Ідзем да дзвярэй,
Каб хтосьці мог,
Крыжам адкрыць цёмную магілу,
І прыняць Святое Святло,
Каб мы ўжо раніцай маглі сказаць,
На парозе дома бабулі і дзядулі –
«Хрыстос Уваскрос»,
А святло гэтай ночы,
Застанецца з намі назаўжды,
У цемры паўсядзённага жыцця.





# Голад ці хвароба

Усе, хто піша, хочуць, каб іх прачыталі. І гэта не важна, што напісанае — вершы, проза, інфармацыйны артыкул ці фельетон. Жаданне, каб твой матэрыял дайшоў да чытача, ёсць натуральным жаданнем. А далей ужо нюансы. Некаму трэба як найбольшая колькасць чытачоў, бо тады на яго рэсурс будуць даваць рэкламу і плаціць грошы. Другому проста славы хочацца. Іншых цікавіць не столькі колькасць, колькі канкрэтная мэтавая група, якая часамі ў адрозненні ад бяздзейнай колькасці можа на нешта паўплываць і нешта вырашыць.

Ёсць нават цэлыя кнігі, вялікія раманы, якія пісаліся ўсяго толькі для аднаго чытача. Пасля некаторыя з іх сталі агульнавядомымі бестселерамі, але на пачатку былі напісаныя для таго чытача, які можа нешта вырашыць і паўплываць на сітуацыю. А бывала аўтар пісаў у стол, нікому не паказваў сваіх твораў па вялікай сціпласці сваёй, ці з бязмернай гордасці, але ўсё адно спадзяваўся, што некалі іх нехта знойдзе і яны ўсё ж дойдуць да свайго ўдзячнага адрасата.

У кожным выпадку, чытач патрэбны, хоць адзін. Ну а зараз чытач скіраваны на навіны, звязаныя з новым вірусам, які трымае ў страху ўсю планету. Таму не абмінеш гэтай тэмы. Тым больш, што яна патрабуе ўсё новых і новых тлумачэнняў і разблачэнняў, асабліва ў нас.

У Еўропе і Амерыцы безліч людзей на каранціне. Жыццёвы лад грамадства змяніўся рэзка і непазнавальна. Ды што там гаварыць, фоты сваіх любімых коцікаў сталі выстаўляць у сецівe ў разы менш. А калі і выстаўляць, то больш іх ужо ніхто не лайкае так масава. Ды і сябе любімых таксама сталі выстаўляць значна радзей. І таксама са значна меншым поспехам у плане ўсялякіх там лайкаў, каментарыяў і перапостаў.

Галоўнае абмеркаванне зараз пра спыненне каранавіруса. Ну а ў Беларусі, якая ўжо больш двух дзясяткаў гадоў традыцыйна ідзе не ў нагу з іншым светам, ці іншы свет ідзе не ў нагу з ёй, яшчэ і ідуць спробы абгрунтаваць, ці хоць зразумець пазіцыю ўлад, якія пакуль што і не збіраюцца падбіраць сваю нагу пад хаду іншых краін. Прынамсі так яны гэта дэкларуюць.

Вось толькі больш-менш зразумела абгрунтаваць сваю пазіцыю ім ніяк не ўдаецца, як не стараюцца, падключыўшы да гэтага працэсу ўсю сваю машыну ўплыву на мазгі насельніцтва. Усе спробы гэта зрабіць разбіваюцца аб факты не на іх карысць. Але адно тлумачэнне, якое ўсё ж прагучала з высокаўладных вуснаў, нияк злёгку праясняе карціну і робіць больш-менш зразумелымі прычыны іх выбару. А матывацыя іх выбару, аказваецца, ёсць тое, што спыненне эканомікі і пераход на каранцін пацягне за сабой голад. І што тады?!

І сапраўды. Можна зараз канстатаваць той факт, што з эканомікай так дагуляліся, што не толькі доўгага, але і кароткачасовага спынення яна можа не вытрымаць. Хвалёная расійская нафта, якой так ганарыліся як дыпламатычным і гаспадарчым дасягненнем, больш нікому непатрэбная, як і прадукты яе перапрацоўкі. Больш патрэбныя медыцынскія маскі. Але ж мазгі працуюць на пошук халявы, а не на канкурэнтаздольную працу. Таму, каб уратавацца ад магчлівага голаду, прымаюцца рашэнні працаваць у старым рэжыме.

Для кожнага чалавека выбар існавання пад страхам хваробы або голаду рашэнне нялёгкае. Якая з двух бед горшая і думаць цяжка. А вось для беларускіх улад гэта пакуль што выглядае відавочным. І напэўна мэтазгоднасць выбару таго ці іншага варыянта залежыць не ад ступені ўдару яго па народзе, а ад ступені ўдару па самой уладзе. Іх матывацыя таго ці іншага выбару хіба ў тым, што маштабы бяды ад хваробы, не дай Бог такіх, яны спадзяюцца схаваць ад грамадства. А вось маштабы голаду, таксама не дай Бог такога, схаваць ад грамадства немажліва. Напэўна таму і прымаецца такое рашэнне, якое прымаецца.

І сапраўды. Наколькі адладжаная тут сістэма фальсіфікацыі, увесь свет ведае па нашых выбарах, якіх еўрапейскія краіны не адважваюцца прызнаваць справядлівымі пры ўсім іх жаданні. Як умеюць усё перавярнуць з ног на галаву дзяржаўныя прапагандысты, таксама факт відавочны. Майстэрства і тых, і другіх адшліфоўвалася дзесяцігоддзямі. Таму выбар зроблены. І што гэты выбар не ёсць самы эфектыўны ў змаганні з хваробай, хіба што ніхто не сумняваецца. А вось ці дапаможа ён пазбегнуць голаду, гэта яшчэ вялікае пытанне.

Віктар САЗОНАЎ

# Што ззаду

Аўтарам знакамітай сентэнцыі „Час — гэта грошы" з'яўляецца Бенджамін Франклін, палітык, філосаф і адзін з бацькоў-заснавальнікаў ЗША. Усяго было іх аж восем айцоў, што даказвае правільнасці думкі, што „поспех мае многіх бацькоў". Параза, вядома, можа быць толькі сіратой. Я не ведаю, хто аўтар іншай, не менш вядомай максімы „Час — гэта свабода", але, напэўна, хтосьці такі ёсць. Пакуль ён хаваецца, як тата-вырадак ад судовага прыстава, пераследуючага яго за нявыплачаныя аліменты. Хіба ж ён не верыў, што нарадзіў геніяльную прымаўку, якой варта ганарыцца? Дарэчы, я не здзіўлены яго стаўленнем, якое вельмі асуджальнае і недаравальнае, але і па-чалавечы зразумелае. Паколькі першая сентэнцыя выдатна разумеецца хаця б інтуітыўна, другая выклікае шмат інтэлектуальных сумненняў. Бо чаму і навошта час роўны свабодзе? І ўсё ж ён роўны, як „азадак" з „задам".

Слова „азадачак» мяне расчульвала з дзяцінства, ад часу, калі я зразумеў, што гэта памяншальная форма вызначэння таго, што заўсёды са мной ... ззаду. З таго часу я дзіка смяюся, калі мой бацька спрабаваў „разрэзаць" гэтую нябачную частку майго цела паяском за нейкія правіны. „Бацька спрабаваў", таму што заражаны маім смехам, ён нарэшце пачынаў рагатаць як конь паказытаны ў капыта. І гэтым заўсёды заканчвалася маё пакаранне. Вернемся, аднак, да сентэнцыі «Час — гэта свабода». Справядліва лагічна яе раскусіць, хай і «ад заду».

Я ўпэўнены, што часу няма ў раба. Ці рабочага вала. Таму што з усім ён належыць свайму гаспадару. Так ці інакш, рабоў, як валоў, у нашым робататэхнічным свеце тэарэтычна няма. Яны прыносяць страты. Ці, дакладней, іх вымушаная гвалтам і паборамі праца нявыгадная. Хоць на практыцы бывае па-рознаму. Рабства здараецца нават у Польшчы, дзе значны працэнт сужонстваў выяўляюць рысы першасных феадальна-прыгонніцкіх адносін. Шмат якая жанчына мела б што сказаць на гэты конт. Аднак гэта датычыць не толькі сужонстваў. У кожнай чалавечай папуляцыі будзе пэўная колькасць асоб, якія маюць паталагічны радавод і садысцкую схільнасць да гвалту. І ўсё роўна, ці будуць яны карпаратыўнымі прэзідэнтамі ў акуратных касцюмах, ці мафіёзі ў потных кашулях. Мы пазнаем іх па тым, як яны трактуюць працу чалавека — яны зыходзяць з прымітыўнай здагадкі, што чалавечыя рэсурсы (гэта значыць новыя рабы) такія ж аднаўляльныя, як і электрычная энергія, атрыманая з сонечных батарэй. Няма больш памылковага. Чалавечая цывілізацыя не дажыла б часу, каб убачыць айфон ці інтэрнэт, калі б яна грунтавалася на рабстве. Егіпецкія піраміды былі пабудаваны не рабамі, а наймітамі, добра аплачванымі работнікамі. Сапраўды гэтак жа рымскія акведукі ўзніклі з наёмнай працы свабодных грамадзян Імперыі. Іх праца была суб'ектыўная. Сучасная цывілізацыя, арыентаваная на эканамічны прыбытак, страціла гэтую суб'ектыўнасць практычна ва ўсім. Сёння, пад пагрозай каранавіруса, яна можа хутка папоўніць страты, калі будзе вернута годнасць чалавечай працы. Эканамічны прыбытак, надзвычай дзелячы людзей на паноў і рабоў, дагэтуль быў абсалютнай каштоўнасцю ў агульным балансе гэтага складанага працэсу, вызначанага як праца чалавека. Час — гэта змяніць. Я адчуваю гэта праз маю скуру, што гэта сапраўды апошні момант! Больш важным, чым бухгалтарскі прыбытак, з'яўляецца пачуццё сацыяльнага забеспячэння і выхаду на пенсію працаўнікоў, іх задаволенасць працай, і, нарэшце, яе сэнсоўнасць і мэтанакіраванасць збалансаваная з эфектыўнасцю экасістэмы Зямлі і, нарэшце, збалансаванае размеркаванне тавараў, уключаючы прадукты харчавання, універсальны доступ да адукацыі і аховы здароўя... Ці я чакаю зашмат?

Час — гэта свабода! Чым больш я станаўлюся ўладальнікам часу, аддадзенага мне, тым больш я свабодны. І чым больш свабодны, тым больш заклапочаны супольным чалавечым светам, поўным гвалту, варожасці і эгаізму. На маю думку, гэта тры слупы глабальнага зла. Як адносіцца да іх думка „Час — гэта грошы"? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба азірнуцца назад, каб, нарэшце... паклапаціцца пра сваю задніцу. Складаная штука, але гэта магчыма. Аўтар сентэнцыі меў на ўвазе толькі тое, што дзень без справы азначае страту грошай у выглядзе страчанага заробку. Таму ён думаў не пра грошы, а пра чалавечую працу. Адзінае, што яна павінна быць чалавечай, а не рабскай.

Мірaслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Адказнасць у час Вялікадня

Вось і дажылі мы да велікоднага перыяду. Каталіцкія святы Уваскрэсення Гасподняга за намі, праваслаўных чакаем. Тыдзень розніцы ў гэтым годзе паміж абедзвюма канфесіямі на фоне пандэміі каранавіруса нясуць з сабою ўзаемасуцішэнне і звычайную пакору перад нябачным ворагам. Суцішэнне і малітва — неад'емныя часткі посту, але, здаецца, у такой сітуацыі ахопліваюць яны значна шырэйшыя кругі грамадства. Не без значэння тут усе адміністрацыйныя абмежаванні, уведзеныя польскім урадам дзеля бяспекі грамадзян усёй краіны. Вялікія фінансавыя кары памерамі ў тысячы злотых за парушэнне рэгламенту самакаранціну дастаткова ахалоджваюць найбольш гарачыя галовы ў цёплыя красавіцкія дні. А тут вясна набрыняла жыватворнымі сокамі, гатовая ўспыхнуць у любую гадзіну дня і ночы. Прывыклае апошнімі гадамі грамадства да бестурботнасці і аніякага абмежавання сваіх грамадзянскіх правоў з вялікім зразумненнем падышло да заклікаў лекараў і перасцярагання накінутых забарон. Ці вытрымае яно далей у самадысцыпліне бліжэйшымі тыднямі — пажывем, пабачым. Аднак кожны добра бачыць, што дзеецца зараз у іншых краінах. Становішча ў Злучаных Штатах Амерыкі напэўна ёсць рэальнай перасцярогай перад бездакзаным паводзінамі. А з якімі псіхічнымі і прафесійнымі выклікамі прыходзіцца змагацца тым, хто на першай лініі барацьбы з нябачным ворагам. Мусім таксама памятаць і пра тых, хто сваёй штодзённай працай забяспечвае лагічтычнае функцыянаванне дзяржавы ў яе розных галінах. Таму ўсім ім павінен быць перададзены наш нізкі паклон і падзяка за робленае імі не дзеля геройства, а проста дзеля выжывання чалавецтва. Бо ніхто напэўна з іх, ці з нас, не хацеў бы апынуцца ізноў у такой сітуацыі. Пандэмія каранавіруса адназначна паказала, што нельга ўжо думаць пра бяспечную будучыню чалавечай грамадскасці без страху перад новымі вірусна-біялагічнымі захворваннямі. Аднак каб перажыць і быць адказным у час Вялікадня перад сабою і сваімі роднымі ці знаёмымі, мусім самі зважаць і перасцерагаць таго штодзённага парадку, які ўведзены ўрадам і санітарнымі службамі. Апошнія абавязваючыя зараз змены былі абвешчаны падчас прэс-канферэнцыі ў чацвер, 9 красавіка. Прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі, міністр здароўя Лукаш Шумоўскі і міністр адукацыі Дарыюш Пянткоўскі паведамілі, што ў юрыдычным парадку да 19 красавіка працягваюцца ўсе раней уведзеныя ў сувязі з эпідэміяй каранавіруса абмежаванні. Дыстанцыйнае навучанне ў школах і ВНУ працягнутае да 26 красавіка. Выпускныя экзамены — матуры — і экзамены для восьмых класаў — адтэрмінаваны на другую палову чэрвеня, пакуль без вызначанай канкрэтнай даты. Аднак міністр адукацыі паведаміў, што вучні пра дату экзаменаў будуць паведамлены мінімум на тры тыдні перад іх тэрмінам. Добра, што перад велікоднымі святамі, прынамсі васьмікласнікі і матурысты разам з бацькамі маюць інфармацыю пра якія-колечы тэрміны самых важных для іх экзаменаў. А што з усім навучаннем і магчымым тэрмінам вяртання вучняў у школы? Бачым тут, на жаль, значна больш клопатаў, чымсьці поспехаў у дыстанцыйным і анлайн навучанні. Надалей працягваецца закрыццё межаў Польшчы. Чарговы тэрмін, які будзе абавязваць для чужаземцаў, гэта 3 мая. Здаецца, што магчымае тут далейшае падаўжэнне, бо з Еўрапейскай камісіі даходзяць чуткі пра закрыццё межаў Еўрасаюза да 15 чэрвеня. Новае, што нас чакае з 16 красавіка, гэта абавязак закрывання носа і рота маскамі або хусткамі ў грамадскіх месцах. Такім чынам маем аднолькавыя патрабаванні да ўсіх грамадзян нашай краіны, як гэта было ўжо прынята ў многіх краінах свету. Распісаўся я тут пра каранавіруса, а пра Вялікдзень толькі ледзь згадаў. Аднак думаю, што калі Хрыстос ахвяраваў сябе дзеля чалавечага жыцця і збаўлення, то і нашым, натуральным хрысціянскім абавязкам з'яўляецца шанаванне дадзенага Богам жыцця і перамаганне зла, якое пагражае ўсяму роду чалавечаму. Таму і канчаю традыцыйным Хрыстос Уваскрос!

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Вось і я дачакаўся: мой вучань стаў маім дырэктарам!

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— З працай настаўніка я знаёміўся ад калыскі. Мае бацькі працавалі настаўнікамі ў вёсцы Мора, потым у Бельску. Перш чым па-польску я навучыўся гаварыць на нашай дыялектнай беларускай мове. Потым пачатковая школа № 3 (з беларускай мовай), Ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча (з беларускай мовай) і рашэнне: хачу быць настаўнікам беларускай мовы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэалам настаўніка роднай мовы былі мае бацькі, хаця не да канца ім прыйшлося навучаць беларускай мове, бо бацька стаў вучыць расейскай мове а мама пачала працу ў дзіцячым садку. Ёсць яшчэ адна асоба, якая застанецца ў маёй памяці, гэта мой настаўнік з пачатковай школы — спадар Сцяпан Бурыла. На кожным уроку ён стараўся вучыць нас пашаны для другога чалавека, сціпласці і ветлівасці.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Калі чалавек хоча пашыраць свае гарызонты ведаў, яму неабходна падтрымаць супрацоўніцтва з сябрамі. Абмен вопытам гэта дарога, каб урокі беларускай мовы былі цікавейшымі і яшчэ больш займальнымі. Шкада, але я магу запісаць толькі імёны маіх сяброў такіх як Аля, Янэк, Мірка, Валя, Ірэна, Анрэй, Ёля, Ася, Тамара, Аня, Люцына, Варвара, Марыся і шмат, шмат іншых.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць у навучанні беларускай мовы?**

— Найбольш карыснае супрацоўніцтва гэта безумоўна тыднёвік «Ніва» з яе вечна яркай «Зорачкай», супрацоўніцтва з Музеем малой Айчыны ў Студзіводах Дарафея Фёніка, БГКТ і Філіялам Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім, як і нашым голасам у эфіры, Радыё Беласток і Радыё Рацыя.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— На жаль, у гэтым годзе не вяду самастойна беларускага праекта для вучняў, хаця супольна з нашай школьнай бібліятэкай і сяброўкамі-настаўніцамі Эвай Багуцкай і Эляй Навацкай прыдумалі мы праект «Сустрэчы з героямі папулярных казак». Гэты праект рэалізавалі вучні з майго восьмага «ц» класа.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Маім любімым конкурсам заўсёды быў і будзе Конкурс беларускай песні, якога арганізатарам з'яўляецца БГКТ.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Калі ёсць час і дазваляюць фінансы, я ніколі не сустрэўся з адказам на дапамогу. Маем разумных і цудоўных бацькоў у нашай школе.



**Яраслаў ПАДОЛЕЦ** нарадзіўся ў 1966 годзе ў Гайнаўцы. Пачатковую школу № 3 і Ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча закончыў у Бельску-Падляшскім. У 1991 годзе атрымаў дыплом магістра беларускай і рускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. У верасні 1991 года пачаў працу настаўнікам беларускай мовы ў Пачатковай школе № 3 імя Яраслава Кастыцэвіча, а чатыры гады пазней закончыў яшчэ паслядыпломную паланістыку. Жанаты, жонка Марына працуе лекарам у Бельску. У іх двое, ужо дарослых дзяцей. Вельмі любіць глядзець прыгодніцкія і дэтэктыўныя фільмы і фатаграфаваць краявіды і прыроду.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Ніякіх складанасцей у добраахвотным навучанні беларускай мове няма, калі вакол цябе добразычлівыя калегі-настаўнікі, разумныя бацькі і іх працавітыя дзеткі.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Прызнаюся, што ўводзячы ў нашы ўрокі беларускай мовы навейшыя метады працы з выкарыстаннем інтэрактыўнай дошкі, праектара ці камп'ютара і інтэрнэту, урокі пісання, чытання, літаратурныя прэзентацыі ці граматычныя практыкаванні робяць урок цікавейшым, больш займальным, але і патрабуем і больш часу, каб больш паказаць вучням.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Ёсць у мяне лаўрэаты прадметнага конкурсу. Думаю, што будзе іх каля 10-15 асоб і падобная колькасць фіналістаў. У гэтым годзе мая вучаніца з восьмага «а» класа стала фіналісткай, але ведаю, што ў гэты фінал уклала яна не менш працы, чым іншыя вучні, бо на тым этапе конкурсу сустракаюцца толькі найлепшыя вучні і за гэта ім усім вялікае дзякуй.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Цяжка адказаць адным словам так або не. Усё вакол нас мяняецца, мяняюцца праграмы і стандарты навучання, а мы, настаўнікі, стараемся дапасаваць падручнікі ў як найбольшай ступені да сучаснасці. Але сучаснасць вельмі хутка мяняецца, а нам, настаўнікам, прыходзіцца вучыць усё больш дапытлівых і цікавых свету дзяцей.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Падручнік да першага класа гімназіі аўтарства спадарыні мгр Тамары Русачык.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Аўтарам, да якога магу вяртацца і чытаць з такім жа захапленнем некалькі разоў з'яўляецца Уладзімір Караткевіч.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна, час ад часу, адкрываю старонкі «Легенд Беласточчыны» Міколы Гайдука і «А кум кумку разуваў» — беларускі фальклор, выдадзены ў Мінску ў 2016 годзе.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— На гэтае пытанне адказам будзе гэты апытальнік.

**— Якая паводле Вас самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Ёсць два мерапрыемствы, якія мне ад душы беларускія: гэта Ноч Купалы ў Белавежы і Бардаўская восень у Бельску.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Здараюцца размовы з гэтымі найстарэйшымі і спробы размоў наймалодшых. Сярэдзіна — маўчыць.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Ужо звыш чвэрць стагоддзя вучу беларускай мове і яшчэ ніхто мне ў вочы не сказаў прыкрага слова ў сувязі з маёй прафесіяй.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Калі пішу гэтыя словы, то сяджу ў хаце і думаю, якім шляхам пойдзе жыццё ў нашай краіне, калі супакоіцца гэты каранавірус. А найбольшую стому выклікае свядомасць, што не можам многа зрабіць, каб выратавацца і застаецца толькі чакаць.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Горда магу сказаць, што сярод маіх выпускнікоў ёсць знакамітыя, вядомыя многім людзі. Падам два найбліжэйшыя мне прыклады. Даўней вучаніца — цяпер сяброўка, настаўніца польскай мовы. Другі прыклад, гэта даўней мой вучань — цяпер дырэктар маёй школы спадар Пётр Нікалаюк-Стасюк. Вось і дачакаўся я — мой вучань маім дырэктарам. Калі ж гэтыя гады праляцелі?

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— У маёй настаўніцкай працы былі і грашовыя і ганаровыя ўзнагароды. Джэнтльмены пра грошы не гавораць, а і так усе наракаюць, што іх заўсёды мала, дык скажу: атрымаў я бронзавы Медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі. Аднак мала хто ведае, што найбольшай узнагародай для настаўніка з'яўляецца магчымасць бачыць, як з дзіцяці вырастае дарослы чалавек.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу і натхненне для далейшай працы даюць словы ўдзячнасці, якія плывуць ад бацькоў і вучняў. Сіла і ахвота да далейшай працы плыве з пачуцця, што ты мог паказаць, якімі дарогамі можна ісці праз жыццё і хтосьці на вуліцы цябе пазнае і скажа — добры дзень, вы мяне вучылі.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Самыя цудоўныя ўспаміны — калі раз на некалькі гадоў, пад канец чэрвеня магу сказаць вучню — *віншую заканчэння пачатковай школы*!

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Наш клас упрыгожваюць гербы Польшчы, Беларусі і бел-чырвона-белы сцяжок.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Будучыню беларусаў цяжка прадбачыць. Ведаю, што ў многім вырашыць цяперашняя эпідэмія каранавіруса...

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Беласток у час каранавіруса

**Сапраўды — каранавіруса не відаць простым вокам, аднак вельмі ярка відаць як змянілася жыццё жыхароў Беластока ў сувязі з барацьбой з эпідэміяй. Цэнтр горада бязлюдны. Да 19 красавіка, значыць да праваслаўнага Вялікадня, польскі ўрад прадоўжыў абмежаванні, каб не дапусціць распаўсюджання эпідэміі каранавіруса. Дзейныя правілы не дазваляюць на прысутнасць у вялікодных багаслужбах, якія для многіх з'яўляліся неад'емнай часткай перажывання таямніцы Уваскрэсення Гасподняга.**




Школы, дзіцячыя садкі, універсітэты, кінатэатры і тэатры зачынены. Улады заклікаюць жыхароў не выходзіць з дамоў без выразнай неабходнасці. Чэргі стаяць перад прадуктовымі крамамі і аптэкамі. Мыйныя сродкі хутка знікаюць з паліц. Прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі падкрэсліў падчас прэс-канферэнцыі, якая прайшла 9 красавіка, што неабходна падоўжыць абмежаванні звязаныя з эпідэміяй. Кіраўнік урада абвясціў, што да 19 красавіка ўсе ранейшыя забароны, якія маюць на мэце працістаяць каранавіруснай інфекцыі, будуць далей дзейнічаць. Закрыццё школ і прыпыненне паветранага руху працягваецца да 26 красавіка, а закрыццё межаў — да 3 мая. З чацвярга 16 красавіка, — паведаміў міністр аховы здароўя, — з'явіцца абавязак закрываць нос і рот у грамадскай прасторы. Дзеля гэтага грамадзяне павінны насіць маскі, але могуць таксама засланяцца шалікам ці хустай. Пакупнікі абавязаныя насіць аднаразовыя пластыкавыя пальчаткі, якіх на жаль, зараз больш па вуліцах чым людзей.

Тое, што зараз робіць з намі каранавірус, прымусіць нас да рэфлексіі. Адно, што напэўна нам трэба зразумець у сучасным свеце, гэта ўзаемазалежнасць. Нам сапраўды трэба аб'яднацца і дзейнічаць з адказнасцю, эмпатыяй і інтэлігенцыяй. Магчыма, што ўсе выйдзем з гэтага мацнейшымі.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**







У чарзе за святочнымі пакупкамі жыхарам горада прыходзіцца чакаць гадзінамі



У атмасферы няўпэўненасці і страху наяўнасць асноўных прадуктаў дома напэўна прыносіць пачуццё спакою і камфорту





Здымак надаслала наша чытачка Эва Шайкоўская, якая працуе ў адной з бальніц у Беластоку. Дзякуем!



# Адыдзі, мор

Якім чынам давалі сабе рады з заразай у мінулым? Апоўначы голыя **«чыстыя дзявіцы»** абворвалі плугам вясковыя межы. Гэтак распавядае Марта Дамахоўская, этнолаг з Этнаграфічнага музея імя Марыі Знямяроўскай-Пруферовай з Торуні. Такім чынам, яшчэ сто гадоў таму людзі прабавалі справіцца з чумой. Маліліся таксама да... святой Кароны. Дамахоўская тлумачыць, што хваробы для жыхароў еўрапейскіх вёсак на мяжы XIX і XX стагоддзяў былі ўсё яшчэ „загадкавымі небяспекамі”.



— Тыя, што распаўсюджваліся ад чалавека да чалавека, часта былі звязаны з уплывам „маравога паветра” — фактару, які выклікае эпідэміі чумы, воспы, халеры ці тыфу, — тлумачыць этнолаг. — Людзі хутчэй верылі ў эфектыўнасць звышнатуральных сіл, якія, як і ў любой іншай нядолі, павінны былі абараніць *oris interior* — нашу вёску, парафію, дом, сям’ю — ад невядомай пагрозы. „Пан Бог найлепшы доктар”, тлумачылі.

Улады прымянялі прэвентыўныя меры, напрыклад, забаранялі ўезд замежнікам, падарожнікаў закрывалі на каранцін і нават забаранялі адпраўляць лісты. Пасылкі акурвалі, грошы паласкалі ў воцаце. Прэвентыўна закрывалі, сярод іншых храмы, школы і рынкі.

Марэк Павел Чаплінскі, апісваючы дзеянні прускіх улад ва ўмовах эпідэміі халеры ў Сілезіі ў другой палове XIX стагоддзя, узгадвае пра закрыццё храмаў, школ і кірмашоў, а Леакадыя Баневіч у сваіх успамінах пра чуму на мяжы XIX і XX стагоддзяў расказвае пра забіванне дошкамі дамоў, у якіх прабывалі хворыя. Забаранялася перамяшчэнне, каб пазбегнуць зборышчаў, памерлых хавалі ноччу, пазначалі ізаляваныя халерныя магілкі.




Памагаў, быццам бы, моцны алкаголь і абкурванне тытунём. Людзям таксама рэкамендавалі ў мінулым весці здаровы лад жыцця. Рэкамендавалася праветрыванне або нават дэзінфекцыя хат і пазбяганне моцных «эмацыйных узрушэнняў» (такіх як трывога, смутак і страх), падаючы да публічнага ведама дакументы ці лістоўкі тыпу «Інструкцыя, як навучыцца паводзіць сябе пры паморку» ці «Навука для падтрымання здароўя і аддаленасці ад хваробы званай халера марбус, калі б яна пракралася да нас». Моцная кава павінна была дапамагчы лекарам абараніць сябе ад заражэння. Лекарам раілі, каб берučы на сябе абавязкі, не пасціліся, падмацоўваліся кавай, гарбатай ці спецыяльна прыгатаванымі каранёвымі спіртнымі настойкамі, а калі збіраліся да пацыентаў, апраналі белыя фартухі і часта іх мылі. Людзям, якія кантактавалі з пацыентамі, рэкамендавалі мыцца мылам або, напрыклад, у растворы хлараванай вапны. Сярод тыповых прэзерватываў ад заразы ўжываліся моцныя прыправы, пара ад воцату і курэнне тытуню. Аднак чытаць не ўсе маглі, і непісьменныя людзі абаранялі сябе вядомымі стагоддзямі спосабамі, напрыклад, ставіўшы прыдарожныя крыжы і капліцы. Калі паяўлялася чума, прадпрымаліся вельмі канкрэтныя дзеянні. Напрыклад, апоўначы голыя дзявіцы і бабулькі абворвалі межы вёскі. У гэтых спецыяльных месцах, побач з адмыслова пастаўленымі асінавымі крыжамі, сеялі лён або мак, спальвалі ядловец.

Выкарыстоўваліся і іншыя метады. Спосабам на выгнанне чумы з вёскі таксама магло быць «выкрэсванне новага агню». Раней патушыўшы стары агонь ва ўсіх хатах, на світанні, галодныя гаспадары распальвалі новы агонь, які потым пераносілі ў дамы ўсіх суседзяў.

Людзі таксама звярталіся да веры і яе сімвалаў. Спецыяльным відам абярэгу былі вядомы ва ўсёй Еўропе, выкарыстоўваныя між іншых падчас эпідэміі халеры ў 1852 г. **каравакі** (ад назвы іспанскага горада Каравака-дэ-ла-Крус), званыя таксама крыжамі заразнымі або маравымі ці крыжамі святога Захарыя. Гэтыя крыжы з двума папярочнымі бэлькамі, верхняя частка якіх карацейшая, ставілі на межах вёскі ці могілак, каб прадухіліць распаўсюджванне небяспечных інфекцыйных хвароб. Папулярныя былі паштоўкі з надрукаванымі каравакамі, якія прадаваліся на кірмашах і ў паломніцкіх месцах. На іх было пастаўлена 18 літар (пачатковыя літары малітваў ці благаслаўленняў святога Захарыя) і 7 крыжыкаў. Іх можна было наляпіць на дзверы дома альбо насіць у якасці абярэга, хаця такія практыкі былі забаронены рымскім папам. Таксама былі манеты, якія людзі насілі як абярэгі. Падчас эпідэміі ў Кракаве ў 1707 г. манета, выраблена з «сямі планетных металаў», мае на аверсе — св. Юрыя, што змагаецца з цмокам, а на рэверсе — каравaку і кабалістычную сімволіку. За тры грошы за штуку можна было купіць яе ў прадаўца на кірмашы святой Альжбеты ў Вроцлаве ў 1735 годзе. Папулярнай была прымаўка, якая сёння вядома толькі часткова: «Крыжык табе на дарогу, а каравачка на папас».

Акрамя крыжыкаў, медалікаў і ахоўных брашур, спужаныя заразай людзі насілі з сабой і іншыя абярэгі. Падчас эпідэміі чумы ў XVII стагоддзі тыя, хто хацеў пазбегнуць гэтай смяротнай хваробы, насілі шарыкі на шыі, зробленыя па адмысловым рэцэпце з жывога срэбра, вердзігрысу, вінаграднай солі і воцату, загорнутыя ў шоўк. Чырвоны колер матэрыялу павінен быў яшчэ больш узмацніць эфект кудменя. Зменнене колеру тканіны на сіні было прыкметай таго, што прадмет пераняў хваробу. Падчас чумы 1625 года ў Торуні можна было купіць такі абярэг за 12 грошаў. У сваю чаргу жыхары вёскі стараліся есці і мець пры сабе зубчыкі часнаку, белага зелля альбо карані дзікага аніса. Яўрэі ад маравога павета елі, насілі за пазухай і вешалі ў вокнах сваіх дамоў цыбулю. Людзі ахвотна акружаваліся прадметамі з сакральнай сферы. Межы паміж домам і навакольным светам, паміж парадкам вядомага свету і хаосам, ахоўваліся завешанымі на дзвярах кропельнічкамі са свянцонай вадой, а выявы святых апекуноў размяшчалі на сценах дамоў. За рамы ікон закладвалі зялёныя «галінкі жыцця» і зёлкавыя вяночкі, чыя ахоўная сіла памнажалася фактам пасвячэння ў храме.

(лук)

## Крынкаўская дэмаграфія

Цяпер у Крынкаўскай гміне 2953 чалавекі ў 33 населеных пунктах. Найбольш у Крынках — 2336 чалавек (у 2016 годзе было 2483). Чатыры гады таму ў мястэчку і вёсках пражывала 3239 асоб. Гміна займае плошчу ў 166 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва — 20 чалавек на адзін квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае 96 мужчын. У гміне 24 салэцтвы, у тым ліку пяць у Крынках.

Найбольшыя вёскі ў Крынкаўскай гміне гэта Гурка (Górka) — налічвае 105 жыхароў, Крушыняны — 75, Кундзічы — 63, Паўднёвы Востраў — 42, Плебанова — 37, Лапічы — 36, Гураны — 35, Юраўляны — 34; Нетупа (24), Нетупа-Калёнія (10) і Нетупа-Млын (3) — усе разам — 37; Ляшчаны — 17, Азяраны-Вялікія — 15 і Азяраны-Малыя — 14, Цюмічы — 15, Шацілы — 14, Падліпкі — 12 і Ласіняны — 10.

Малымі паселішчамі ў Крынкаўскай гміне з’яўляюцца Новая Грыбоўшчына і Саннікі — па 9 жыхароў, Белагорцы і Новая Свідзялоўка — па 8, Рудакі — 7. На пальцах адной рукі можна палічыць жыхароў Барсуковіны і Трэйгляў — у іх па 4, Раховіка — 3, Азерскіх і Старой Грыбоўшчыны — па 2 ды Клышаўкі, Плянты, Студзёнкі, Халодных Валокаў і Жыліч — усяго па 1 жыхары.

Адышлі ў нябыт паселішчы Аляксандраўка, Падшацілы, Сарачыншчына, Слабодка і Ямашы. У іх няма ўжо жыхароў і стала бязлюдна і пуста. **(яц)**

## У белавежскім лесе

Лес... Настоены на жывіцы, травах і кветках свежы халадок. Вятры заснулі на сцішаных галінах. У лесе так ціха, што чуваць, як з высокіх елак ападаюць іголкі і суха пахруствваюць на вузкай сцяжыне па край дарогі. На сасне празрыстая, як мёд, янтарная жывіца. Паміж соснамі там-сям святлеюць бярозы ў белых фартушках. Раптам на пастарэлым разгалінастым клёне спалохана зашчабятала нейкая лясная малая шэрая птушачка. Па камлі тоўстага старога дуба шарганула лапкамі бурахвостая вавёрка. Знайшла грыб і ўжо ласуецца.

На лясной палянцы над жоўтымі і сінімі кветкамі джынгаюць пчолы і вялікія чмялі. Весела трапечацца, перабіраючы чырвона-чорнымі крыльцамі, матылёк. Адтуль, дзе струменіць крыніца, выйшла з маладога сасонніку насцярожаная ласіха з малым. Сухія высокія травы патаемна нешта шэпчуць... **(яц)**

## Дарога цераз лес

У вёску Лешукі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета з Новага Ляўкова можна даехаць непасрэдна. Ад ваяводскай шашы № 687 вядзе даволі шырокая і роўная гравійка цераз прыгожы сасновы лес. Летам тут поўна ягад. Дарога абкапаная равамі. У равах ссеклі кусты ды так іх пакінулі і яны ляжаць. Ад гравійкі адыходзяць у бакі лясныя вузкія малаезджаныя дарожкі (іх зараз моцна парылі дзікі) і тут цераз равы ў трох месцах ёсць старыя бетонныя масткі, па якіх бяспечна можна пераехаць.

На вышэйзгаданай г.зв. жвіроўцы стаяць старыя дарожныя знакі — бетонныя (як было шмат гадоў таму) слупы і заіржавелыя бляшаныя жоўтага колеру трыкутнікі. Перад чым яны асцерагаюць вадзіцеляў аўтамашын зараз невядома. Адзін такі неразборлівы знак стаіць перад крутым паваротам дарогі, як памятаю, ужо дзесяць а то і больш гадоў. **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Велікодныя э-ўрокі і пажаданні!

— Урокі анлайн не павінны стамляць, — мяркуе Андрэй Мароз, настаўнік з бельскай «тройкі», — калі мы загрузім іх матэрыялам, вучні яшчэ больш будуць хвалявацца. Абураюцца таксама бацькі. Яны супраць вялікім патрабаванням.

— Якія тады тэмы прапануеце сваім вучням?

— Многа гаворым пра Вялікдзень. Дзеці атрымалі задачу пазваніць бабулям і дзядулям і спытаць іх пра свята. Ужо дасылаюць мне сканы сачыненняў пра традыцыі і малюнкі. Многа файных адказаў я атрымаў, таму нельга наракаць. Неяк спраўляемся.

Настаўніца Анна Франкоўская з Орлі вядзе заняткі анлайн праз аплікацыю Messenger. Раней рассылае ўсім тэмы мэйлам. А пасля, калі спатыкаюцца класамі на фейсбуку, дакладна паясняе задачы. Вучні таксама пішуць свае запыты і дасылаюць відэапрэзентацыі.

— Ці гаварылі ўжо пра Вялікдзень?

— Вядома, гаварылі — кажа настаўніца, — задачай вучняў было падрыхтаваць святочны кошык-«свянцонку» і пераказаць велікодныя пажаданні родным і сябрам.

— А ці ў пажаданнях паяўлялася тэма каранавіруса?

— Не, яны традыцыйныя, радасныя! Мае вучні не наракаюць на каранцін, — адзначае настаўніца, некаторым дык гэта нават падабаецца. Але з другога боку яны сумуюць па школе, а найбольш па сябрах. І я таксама сумую па сапраўдных уроках і па маіх вучнях...

Каб не думаць занадта пра абавязковую пабыўку ў хаце, вучні атрымалі таксама «сусветны» выклік:

— Іх задача — напісаць пра тое, як святкуюць Вялікдзень у іншых краінах свету. Такое сачыненне на беларускай мове таксама прыблізіць да родных абрадаў і звычаяў.

Шмат месца вясновым і велікодным абрадам прысвячаюць таксама гмінныя асяродкі культуры і агратурыстычныя пансіянаты. Вось у Кляшчэлях, на аснове відэазапісаў, вучылі дзяцей упрыгожваць вярбу на Вербніцу, а ў Масеве выпякалі «буслявы лапкі». Іх дзеянні — гэта не толькі прамоцыя народнай эстэтыкі і традыцыі, але і псіхічная падмацоўка ў цяжкі час. Менавіта дзеля такой мэты іх прыдумалі нашы продкі.

(гак)





Велікодныя «цацкі» фонда «Oni to My»



*Янка Купала*

## Вялікдзень

Два святы на свеце — ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! Наступае вясна!
Глянь смела, глянь вольна, шчаслiў,
нешчаслiвы.
І далей к жыццю з паніжэння і сна!
Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух святаў
Спяшыце супольна, хто ў путах не згніў!
Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты
У адно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!
Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас нядаўнія дні,
А ўспомні-прыпомні, шчаслiў, нешчаслiвы,
Аб тых, што ў світанні на век адышлі, —
Усе костачкі тыя на гонях папарных, —
Жывых, што ў бяспуцці акуццем звіняць...
Прыпомні, дай слова не шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!
Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы
Заводзіць бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні ж, азірніся, шчаслiў, нешчаслiвы.
І заўтра на поле да сох як адзін!
Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных не можам пазбыцца слёз...
Наперад па шчасце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на свеце, — Хрыстос уваскрос!

**УВАГА КОНКУРС! № 16-20**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 26 красавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**У куточку — беленькі чарапок?**
Ш........ (частка яйка).

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 12-20: дарога. Узнагароду, аўтаручку, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**ЯЙКА** - сімвал жыцця, сусвету, здароўя, урадлівасці.

Нашы продкі верылі ў яго магічную, ачышчальную і ахоўную сілу. У старажытныя часы яйка было звязана з культам памерлых, яго спажывалі ў час рытуальных пачастункаў ды прыносілі ў якасці ахвяры сілам таго свету. Паколькі ў яйку знаходзіўся зародак жыцця, яно явілася пачаткам новага жыцця і сілы.

Яйка — сімвал Вялікадня.

Па сённяшні дзень яго выкарыстоўваюць у велікодных абрадах і рытуалах. Велікодныя яйкі часцей за ўсё фарбавалі ў чырвоны колер, часам упрыгожвалі ўзорамі ў старажытныя сімвалы і знакі. Каб быць прыгожымі і здаровымі, раніцай на Вялікдзень мыліся вадой, у якой было пакладзена чырвонае яйка. Урачысты сняданак пачыналі са спажывання асвячонага яйка. Людзі, якія разам разгаўляліся, то-бок разам спажывалі сняданак, — верылі нашы продкі, — умацоўвалі між сабой здольнасць супрацоўніцтва і аховы ў цяжкія хвіліны жыцця. Шкарлупіны ад велікоднага яйка давалі курам, каб яны неслі моцныя і вялікія яйкі.

Па сённяшні дзень на Падляшшы захавалася традыцыя валачобнага, калі хросныя бацькі абдорваюць яйкамі дзяцей. Дзіцяці трэба падарыць найменш тры яйкі — на здароўе, прыгожасць і шчаслівы лёс. Тут, дарэчы, абавязваў прынцып — чым больш, тым лепш. Гэта спрыяла гульням і забавам з яйкамі, якія мелі падвойнае значэнне. Апрача радасці, велікодныя гульні, як выбіткі, качанкі, жалубец, кіданне яйка цераз хату, мела пасадзейнічаць тром згаданым каштоўнасцям: здароўю, прыгожасці, шчасліваму лёсу — ды паспрыяць адраджэнню прыроды.

Велікодныя яйкі клалі ў падрыхтаванае да пасеву збожжа, у першую баразну. Падчас пасеву льну іх падкідалі ўгару, каб ён рос высокі. Верылі, што асвячоным на Вялікдзень яйкам можна пагасіць пажар, калі тры разы з ім абысці палаючую хату ці стадолу. Велікодныя яйкі кідалі ў калодзеж, каб не было засухі. Іх клалі пад саламяныя стрэхі, каб засцерагчы перад навальніцамі, вятрамі, ураганамі.

У час Светлага тыдня, які пачынаецца пасля Вялікадня, яйкі неслі на магілы продкаў. Калі спажывалі іх птушкі, гэта быў знак, што разам падмацаваліся душы памерлых.

Яйкі выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне. З іх дапамогай шаптухі і знахары выкачвалі хваробы з людзей і адганялі сурокі. Пасля такое яйка шпурлялі цераз плот.

Нашы продкі верылі ў асаблівую моц яек з двума жаўткамі. Калі цяжарная жанчына спажывала такія яйкі, яна магла нарадзіць блізняты. Верылі таксама, што яйка можа знесці сямігадовы певень. Такое здарэнне ўзбуджала жах, паколькі з такога яйка вылупіцца цмок — сімвал знішчэння і смерці.

Яйкі выкарыстоўвалі ў абрадах на Юр'я. Пры выгане кароў іх качалі па поўсці жывёлы, каб такім чынам прывіць ім здароўе і пазбегнуць паразітаў. Таксама закопвалі шкарлупіны яек спажываных на Юр'я сярод пасеваў ярыны. Верылі, што гэта паспрыяе багатаму ўраджаю.

У казках і легендах з яйка птушкі фенікс або вадаплаўнай качкі нараджаецца сусвет. Яго залатое і надзеленае ўласцівасцямі сонца. Таксама магічную моц мела яйка, знесенае напярэдадні Каляд, у час, калі нараджаецца новае сонца. Нашы продкі верылі, што з дапамогай такога яйка можна забіць цмока і адшукаць зачараваны скарб.

*(Адрэзак паводле «Міфалогіі для дзяцей» Алесі Коршак)*

**(гак)**

Размалюйце!





*Унукі матушкі Людмілы Клімук: Мішка, Пятрусь і Грышка Шыманюкі і Філіп Валосік.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 16-2020

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 12-2020:** Вясна, звер, як, луг, ты, бусел, Об, сіні, фан, індык, краска. Шафа, сок, інк, ар, хроніка, гусі, ліна, методык, рыбак.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Алівія Місюк** з Беластока і **Магда Кавальчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Wodnik | | | Iks | Zwierzę domowe | | Ha! / Strach | | | |
| Mars | | Nietoperz / Róg | | | | | | Statek / Bierz | | |
| | | | | Pragnienie | | Adam | Szkło / Kula | | | |
| Mag | | | Krewny | | | | | | Ona | |
| | | | Miód | | | | Żeby | | | |
| Miecz | | Mleko | | | | | | | Czoło | |
| | | | Gama | | | | | | | |
| | | Bierz | | | | Ból | | | | |

# Вялікдзень у мінулым і сумная рэчаіснасць

Вялікдзень на зломе першай і другой паловы XX стагоддзя моцна розніўся ад святкавання Уваскрэсення Хрыстовага ў папярэдніх дзесяцігоддзях і напэўна яшчэ намнога больш будзе розніца ад сёлетняга велікоднага перыяду. Пандэмія каранавіруса спаралізавала царкоўнае і грамадскае жыццё, а таксама сямейныя кантакты. За невялікімі выключэннямі ў перадвелікодны перыяд і ў час самога святкавання Вялікадня вернікам не будзе магчымасці пабываць на багаслужбах у цэрквах. Хутчэй за ўсё прыйдзецца святкаваць у віртуальным рэжыме — глядзець трансляцыі з царкваў па тэлебачанні або слухаць іх па радыё ды маліцца з дапамогай інтэрнэту. Забараняецца зараз, між іншым, сустрэч з пражываючымі ў іншых месцах сямейнікамі і хутчэй за ўсё гэтая забарона ў Вялікдзень не будзе адменена. Успаміны старэйшых асоб як у дзяцінстве і юнацтве рыхтаваліся і святкавалі Уваскрэсенне Гасподняе можа крыху асаладзяць час змагання з каранавірусам, калі частка асоб вымушана будзе праводзіць свята самотна.

— Калісьці ў Тапарах Кляшчэлеўскай гміны жылося вельмі радасна. Сем'і былі вялікія і амаль у кожнай хаце былі дзеці. Быў гоман, смех і радасць, якую адчувалі таксама нашы бацькі і дзяды. Зараз у вёсках большасць жыхароў складаюць старэйшыя людзі, часта адзінокія. Радасць паяўляецца, калі прыедуць дзеці і ўнукі, — заявіла Зоя Майстровіч, ураджэнка Тапароў, якая зараз жыве ў Рудутах і апошнімі гадамі памагае аднаўляць народныя традыцыі.

Летам у Тапарах арганізуецца фальклорнае мерапрыемства «Перапяліца», у час якога жыхары сяла і іх госці аднаўляюць цікавы і важны ў жыцці нашых продкаў жніўны абрад. Жанчыны з Тапароў з дапамогай Зоі Майстровіч пачалі ў вясковай святліцы паказваць таксама зімовыя абрады. Да жанчын далучыўся Віталь Соха. Рашыўся я распытаць тапароўскіх аматараў народных абрадаў пра святкаванне Уваскрэсення Гасподняга ў мінулым.

— Дзеці з нецярплівасцю чакалі Вялікадня, вельмі радаснага свята. У мінулым дзеткам не давалі падарункаў ні падчас Раждзаства Хрыстовага, ні ў час іншых святкаванняў. На Вялікдзень атрымлівалі мы вельмі прыгожыя каляровыя яйкі ад бацькоў, хросных бацькоў і сваякоў. Мы вельмі цешыліся яйкамі. Калі падраслі, больш зразумелі сэнс святкавання Уваскрэсення Гасподняга, якое папярэджваў Вялікі пост. Старэйшыя пасцілі сурова і нават жыльнікавалі — ад чацвярга вечарам не елі нічога ажно да часу, калі на Вялікдзень раніцай вярнуліся з царквы дамоў. У выпадку дзетак пост быў менш суровы, але мы таксама яго адчувалі, паколькі былі пазбаўлены ранейшых страў. Ужо дарослымі зразумелі, што пост — гэта перш за ўсё перамена жыцця, — стала расказваць Зоя Майстровіч.

— Перад святам прыбіралі ў хатах і рабілі парадкі на панадворках. Уручную рыхтавалі мясныя вырабы, сыр і ў маслабойках білі масла. Ежа рыхтавалася для асвячэння ў Вялікую суботу. Асвячалі харчаванне ў саламяных карзінах, засланых белым абрусам. Пазней асвячалі ў місках і карзінах з ракіты. Нашы мамы рыхтавалі многа яды, каб хапіла яе на цэлы святочны тыдзень, ажно да правадной нядзелі. Асвячаліся перш за ўсё «пасха» — посны пірог аздоблены літарамі «Х» і «В» з цеста, што абазначала «Хрыстос воскрэс», салодкі пірог, які ў нас называлі «мазуркам», хлеб, яйкі, соль, сыр, масла і, канешне, мясныя вырабы, сярод якіх абавязковай была каўбаса. Шкарлупінне ад асвячоных яек перад сяўбой агародніны кідалі на зямлю, якую асвячалі яшчэ шчопаццю асвячонай солі, — стала распавядаць Людміла Мрук, якая з дзяцінства жыве ў Тапарах.



Гульня яйкамі на катку ў Тапарах



Зоя Майстровіч і Віталь Соха ў час прэзентавання ў Тапарах даўніх сельскагаспадарчых прац

— Хаты прыбіралі белымі вышыванымі ручнікамі, абрусамі і сурвэтамі. Ручнікі вешалі на іконы, фатаграфіі і нават на люстры. Белымі ручнікамі прыбіралі таксама яду да асвячэння. Каб паслухаць 12 фрагментаў Евангелля, нашы жыхары ездзілі ў прыхадскую царкву ў Орлю. У суботу перад Вялікаднем вясковы папячыцель ехаў фурманкай за бацюшкай з Тапароў у Рудуты. Асвячэнне яды ў Тапарах адбывалася ў двух месцах. Пасля папячыцель адвозіў бацюшку ў Орлю, — сказала Зоя Майстровіч.

— На багаслужбы мы выходзілі ў Вялікую суботу, каб яшчэ перад змяркannем дабрацца ў Орлю, куды трэба было ісці восем кіламетраў. Мы, дзяўчаты, у царкве прыбіралі Ікону Божай Маці ў ківоце — гэта быў абавязак жыхароў нашай вёскі. Пасля яшчэ спявалі жалобныя песні каля Гроба Гасподняга. Велікодныя багаслужбы пачыналіся перад поўначчу. Мы тройчы хрэсным ходам абыходзілі царкву, а пасля доўга маліліся, ажно да раніцы. Вельмі стомленыя вернікі прысядалі на падлогу і адпачывалі. Аднак Уваскрэсенне Гасподняе гэта вельмі радаснае свята і гэта дапамагала нам пераадолець стому. За намі прыязджалі бацькі на фурманках і вяртанне дамоў не было ўжо складаным. На фурманках вярталіся астатнія жыхары Тапароў, але бывала, што не ўсе памясціліся на вазах і частка асоб вярталася дамоў пяшком. З першага дня Вялікадня, ажно да канца святочнага перыяду, адчувалася радасць Уваскрэсення Хрыстовага і мы віталіся словамі «Хрыстос воскрэс» і адказвалі «Воістіну воскрэс», — расказвала Людміла Мрук.

— На першы дзень Вялікадня пасля вяртання з царквы не было ўжо часу лягаць спаць, бо нас, дзетак, чакала многа ўражанняў. Мы ўрачыста снедалі і атрымлівалі рознакаляровыя яйкі, да якіх фарбавання выкарыстоўваліся цыбульнік і фарбы для фарбавання нітак і палатна — сказала Зоя Майстровіч.

— У Тапарах было многа хлопцаў, якія збіраліся на першы дзень Вялікадня, каб спускаць яйкі з катка. Кожны хлопец на гэты дзень атрымліваў каляровыя яйкі ад сваіх бацькоў і валачобнае ад хросных. На адным панадворку быў узгорак і там з катка, зробленага з двух збітых дошак, пускалі яйкі. Калі маё яйка дакранулася да іншага, я забіраў абодва яйкі. Хлопцы ладзілі выбіткі на яйкі, каб спраўдзіць чыё мацнейшае. У час гульняў, канешне, вяліся размовы і хутка мінаў святочны час, — сказаў Віталь Соха з Тапароў, член калектыву «Арляне» з Орлі.

— Хаця яйкі з катка спускалі ў галоўным хлопцы, мы дзяўчаты таксама рабілі такія спробы. Бывала, што ішлі на выбіткі і спраўджалі, чыё яйка мацнейшае, але гэтым таксама ў галоўным займаліся хлопцы. Мы глядзелі, як яны пускалі яйкі з катка, размаўлялі і радасна праводзілі час, — заявіла Зоя Майстровіч.

— Па вайне многа нашых дзяўчат вярнулася з прымусовай працы ў Германіі і хаця ўмовы жыцця былі складанымі, вельмі радасна тады жылося. Пакаленне моладзі маёй сястры Гандзі, якая была старэйшая за мяне на 14 гадоў, вельмі прыгожа спявала моцнымі галасамі. Калі яны пасля Вялікадня на лаўках у Тапарах спявалі рагулькі, было чуваць іх у суседніх Залешанах і Саках, асабліва добра, калі вечарам быў туман, — сказала Людміла Мрук. — У звычайныя дні велікоднага перыяду было многа працы. Жанчыны разбівалі агароды, мужчыны рыхтавалі поле, сеялі збожжа, садзілі бульбу. Танцы на вясковай пляцоўцы ладзіліся па нядзелях. У Тапарах было многа дзяўчат і на танцы прыязджалі хлопцы з Маліннік, Рудутаў, Шарнёў, Пашкоўшчыны і іншых вёсак.

— Слухаючы рагулькі ў выкананні дзяўчат і замужніх жанчын, якія спяваліся ад Вялікадня да правадной нядзелі, мы даведваліся аб нешчаслівым каханні, цяжкай долі жанчыны ў мужавай сям'і і аб іншых жыццёвых складанасцях. Спявалі яны таксама радасныя песні і ўсё гэта мы слухалі. Танцы ладзіліся пасля правадной нядзелі. Было ў нас пяць музыкантаў, якія падыгрывалі на акардэоне на змену. Пасля некалькіх танцаў быў перапынак і мы спявалі. Пазней пачынаў іграць іншы гарманіст і зноў пачыналіся танцы. Бывала, што гарманіста супраўваджаў яшчэ бубнач. Ад наступнай нядзелі па правадной пачыналі ладзіць вяселлі. Бывала, што ў адзін дзень было іх у Тапарах і па два, — распавядала Зоя Майстровіч.

— Хаця мы належалі да прыхода ў Орлі, то найбліжэй нам было да Дзмітрыеўскай царквы ў Саках, якія належалі да прыхода ў Дубічах-Царкоўных. Святар з Дубіч служыў літургію ў Дзмітрыеўскай царкве кожную трэцюю нядзелю і туды мы ў вялікую пятніцу хадзілі пакланяцца Гасподняй плашчаніцы і маліцца на трэці дзень Вялікадня. Пасля быў устаноўлены асобны прыход, да якога належаць Сакі і Тапары. Цяпер наш прыход спалучаны з Дзмітрыеўскім мужчынскім манастыром у Саках. Перад сёлетнім Вялікаднем з-за каранавіруса перасталі мы ездзіць на посныя багаслужбы ў царкву і сталі маліцца дома, гледзячы багаслужбы па тэлевізары. Відаць, дома будзем маліцца таксама на Вялікім тыдні, на Вялікдзень і ў пасляvelікодны перыяд з верай у дапамогу Уваскрэслага Хрыста ў змаганні з каранавірусам, — сказала Людміла Мрук.

— Мы цяпер цэлы час жывем, апасаючыся за сваё здароўе і блізкіх нам асоб. З-за каранавіруса закрыты тры аддзяленні шпіталя ў Бельску-Падляшскім, а колькасць заражаных вірусам у Бельскім павеце хутка большае. А наша вёска мяжуе з Бельскім паветам. Не прыязджаюць дзеці і ўнукі, у вёсцы пуста і сумна. Пэўна пустой будзе наша вёска таксама на Вялікдзень. Мяне на святы забірала да сябе сям'я маёй пляменніцы з-пад Нараўкі, а ў гэтым годзе буду святкаваць адзінока дома. Аднак, калі бачым, што робіцца на свеце, нас перш за ўсё турбуе, што будзе з намі пазней? Ці каранавірус не дойдзе ў Тапары? Не ведаю, што будзе, — сказаў Віталь Соха.

— Я жыву з мужам і мы не выходзім па-за панадворак, хіба, што купіць хлеб, які прывозіць аўтакрама. Прадукты харчавання давозяць нам дзеці. Такі час настаў, што Вялікдзень будзем святкаваць з мужам дома. Перш за ўсё я хвалююся за дзяцей і ўнукаў, каб не захварэлі і нічога дрэннага з імі не здарылася, — заявіла ў канцы размовы Зоя Майстровіч.

З усімі суразмоўцамі гаварыў я па тэлефоне.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка

# Пачатак творчага шляху Аляксея Карпюка

Прайсці праз пекла вайны, канцлагер, партызанку, цудам выжыць у баях за Берлін і пасля шпіталя трапіць у педагагічны інстытут, хіба гэта не шчасце? Быццам у рай трапіць. Бо малады, хоць і зранены, хоць і нашпігаваны асколкамі, а ўсё ж жывы, шчаслівы, што жывы, што вакол аднаўляецца жыццё. І хоць нялёгка, бо і галадна, і холадна, а ўсё ж самае жудаснае перажыта. Так было ў жыцці Аляксея Карпюка і ў жыцці Косці Грушэўскага — героя ягонае першае аповесці „У адным інстытуце".



**Аляксей Карпюк**, нарадзіўся 14.04.1920 г. у вёсцы Страшава на Беласточчыне (гміна Гарадок) у сялянскай сям'і. Скончыў два класы польскай гімназіі ў Вільні. У 1939-1941 гг. вучыўся ў Наваградскай педагагічнай навучальні. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі ўваходзіў у склад падпольнай дыверсійнай групы. У час выканання дыверсіі на чыгунцы ў канцы 1942 г. быў арыштаваны і адпраўлены ў беластоцкую турму, а адтуль у канцлагер Штутгоф. Увосень 1943 г. уцёк з лагера і прыняў удзел у партызанскай барацьбе. У 1944 г. быў камандзірам партызанскага атрада імя К.Каліноўскага на Гарадзеншчыне. У 1944-1945 гг. служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Двойчы паранены. Скончыў аддзяленне ангельскай мовы Гарадзенскага педагагічнага інстытута (1949). Працаваў загадчыкам Сапоцкінскага рана (1949-1951), дырэктарам Біскупскай сямігадовай школы Ваўкавыскага раёна (1951-1953), у Гарадзенскім педінстытуце (1953-1955), у абласной газеце «Гродзенская праўда» (1955-1957), уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1961 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. З 1961 г. - загадчык агенцтва «Інтурыст» (Горадня), з 1965 г. — сакратар Гарадзенскага абласнога аддзялення СП БССР, з 1970 г. — упаўнаважаны УААП па вобласці, у 1977-1981 гг. — дырэктар Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Горадні, з 1978 г. — зноў сакратар абласнога аддзялення СП БССР. Сябра СП СССР з 1953 г.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам ордэна «Віртуці Мілітары» (Польшча). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Памёр 14.07.1992 г. У друку дэбютаваў у 1953 г. аповесцю «У адным інстытуце». Выйшлі кнігі аповесцей і апавяданняў «Дзве сасны» (1958), «Данута» (1960), «Мая Гродзеншчына» (нарыс, 1960), «Пушчанская адысея» (1964), «Чаго мы варты» (бібліятэка газеты «Голас Радзімы», 1970), «След на зямлі: Скарбы і здабыткі маёй Гродзеншчыны» (1972), «Вершалінскі рай» (1974), «Ольга Корбут» (1977), «Свежая рыба» (1978), «Партрэт» (1983), «Сучасны канфлікт» (1985), «Дзве сястры» (казка, 1986), раман «Карані» (1988). Выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах у 1980 г. і 1990-1991 гг. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І.Мележа (1986) за кнігу «Сучасны канфлікт».

Напачатку пра гісторыю напісання твора. Калі першы сакратар Сапоцкінскага райкама Яцкевіч „пад выглядам ачысткі кадраў ад непажаданага элементу ў пагранічным раёне" дабіўся звальнення з працы непакорнага загадчыка райана Карпюка, таго накіравалі дырэктарам Біскупскай школы ў Ваўкавыскі раён. І хоць працы і тут было вельмі шмат (апрача асноўнае, педагагічнае, яшчэ і будаўніцтва школы, шматлікія грамадскія абавязкі, сакратарства ў калгаснай партарганізацыі), усё ж час для напісання аповесці можна было ўрваць. Жаданне пісаць узнікла яшчэ ў Сапоцкіне. З даваеннага часу меў Карпюк вернага сябра, літаратара Уладзіміра Калесніка, з якім падзяліўся сваёю задумаю. Той, як згадвае Карпюк, „пазнаёміў з Янкам Брылём. Першая сустрэча з Іванам Антонавічам так уразіла мяне, што я раптам адчуў сябе нічым у параўнанні з сапраўдным пісьменнікам. Мне здалося, што я задумаў немагчымае, і стала нават сорамна за свае нясціплыя жаданні. Але мінуў тыдзень-другі, і мяне зноў пацягнула да пісання. Тады я зрабіў для сябе важнае адкрыццё: гонар, незадаволенасць сабой, упартасць, нават у нейкай ступені злосць і зайздрасць — дабрадзейства для чалавека: яны могуць з цябе здабыць такое, чаго ты і сам ад сябе не спадзяешся" („Мая Джамалунгма").

Той, хто ведае творы пісьменніка, хто чытаў ягоныя ўспаміны, не будзе здзіўлены такім паваротам, зменамі настрою Аляксея Карпюка. Упартасць, імкненне давесці пачатую справу да канца заўсёды рабілі яго непераможным. І на шляху пісьменніцкае працы таксама.

Але ж — першая аповесць. „Восень, 1945 год. Пабітыя педінстытуцкія шыбы закладзены фанерай. У аўдыторыях, замест крэслаў, — з грубых дошак лавы..." Гэта пачатак твора. Гэта быў пачатак студэнцтва Косці Грушэўскага, у якім было шмат рамантычнага, узнёслага. Было каханне. Пісьменнік не абмяжоўваецца аповедам пра няпростыя адносіны героя з прыгажуняй Аняй Дубравінай, з аднакурснікамі, з кіраўніцтвам інстытута. У сюжэтную канву ўплецены ўспаміны пра мінулае, лёсы многіх людзей. Да прыкладу, пакручастыя жыццёвыя шляхі сям'і Раманюкоў. Праз столькі гадоў, калі многае з напісанага тады адкідаем без шкадавання, бо насычана фальшам, аповесць Карпюка чытаецца. Аўтару не толькі ўдалося перадаць атмасферу радаснага аднаўлення жыцця, але і пра адмоўнае, балючае напісаць даволі смела. Чамусьці ніхто з даследчыкаў ніколі не згадаў твор як прыклад юнацкае аповесці.

Цікава чытаць першы твор Аляксея Карпюка, параўноўваючы яго з адпаведнымі старонкамі ўспамінаў „Развітанне з ілюзіямі", дзе раскрываецца тое, пра што пісьменнік не мог напісаць у пяцідзясятыя гады. Аўтар паказвае задушлівую атмасферу даносаў, калі людзей скоўваў страх, бо ўсе ведалі пра штодзённы начны хапун. Тое, што адбывалася ў педінстытуце, пісьменнік назваў „Мафіяй НКУСаўцаў". Асабліва пачварна выглядае постаць лейтэнанта Чыркова, выкладчыка кафедры марксізму-ленінізму, які „за нешта пpаштpафіўся ў НКУС і да нас трапіў невыпадкова. Хтосьці вырашыў, што ў педінстытуце зарадзілася нездаровых імкненні, і паслаў яго да нас на ўмацаванне педагагічных кадраў. Жах, які гэта быў чалавек. Абмежаваны. Нахабны. Неахайны ў вопратцы, са стаптанымі абцасамі, у ніколі не чышчаных афіцэрскіх ботах і ў такім жа галіфэ неакрэсленага колеру. Затое самаўпэўнены і настырны. Ён адразу пачаў цкаваць выкладчыкаў". Ахвярамі гэтага монстра сталі многія, а першымі — адукаваныя, прыстойныя, сумленныя выкладчыцы англійскай мовы Фаіна Квяткоўская і Марыя Мінц. Аўтар малюе сцэну партсходу, на якім гаспадарыць Чыркоў. Чаго варты ягоны зварот да рэктарата: „Безадказныя разгільдзяі, куды вы глядзіце?" А што кіраўнік установы адукацыі? Запратэставаў на гэтае жудаснае хамства? Ні слова ў адказ, калі Чыркоў „тыцнуў пальцам у абмярцвелага рэктара". НКУСавец прыводзіць цытату Сталіна пра пошук класавага ворага. Ягоны маналог поўніцца пагардай і нянавісцю да адукаваных калег: „Растапырыліся тут, панімаеш, самі і людзям дазволілі растапырыцца!.. Нічога, неўзабаве давядзём вас да кандыцыі, я за гэта вазьмуся! Развялі тут буржуазную гніль!.. А калі яна агентка ЦРУ і спецыяльна падасланая да нас?.. Шчэ трэба разабрацца, ці яна адна? Шчэ трэба прыглядзецца да яе абаронцаў. Напэўна, тут гняздо ў іх!.."

„Пад уладай чырковых" адбываюцца страшныя рэчы. Ва ўсім горадзе, ва ўсім Краі рэпрэсіі набіраюць моцы. Але — пра тое, што адбывалася ў адным інстытуце: „Нават сёння памятаю тую раніцу — жудасна-страшную, калі мы ў інтэрнаце раптам даведаліся, што яшчэ ўчора з пасады рэктара знялі нашага любімага Уласаўца і на яго месца прызначылі п'яніцу і нікчэмнасць. Мала таго, ноччу ў пакоях інтэрната... зрабіліператрус, пасля чаго арыштавалі студэнтаў Кісяля, Стародубцава, Барэвіча, Матэчку, Пілецкага. А за імі забралі выпускнікоў — Смоліча, Чурылу, Майсеню і Генаша. Узялі Барэвіча, выкладчыка Гайдучыка ды яшчэ і яшчэ..." (Даведка: Уласавец Мікалай Васільевіч — працаваў на пасадзе рэктара з 1944 па 1949 год, пасля яго Малюкевіч Іосіф Мікалаевіч, адпаведна: 1949-1955).

З тых часоў у архіве Аляксея Карпюка засталося некалькі здымкаў. Паказвала іх на лекцыі слухачам Універсітэта залатога веку. На адным група філолагаў у час заняткаў. „Гэта мае бацькі", — азваўся адзін з маіх залатых студэнтаў... Успаміны аднакурсніка Аляксея Карпюка вартыя асобнага артыкула. А вось пра здымак выпускніка з букетам і дыпломам не згадаць нельга. Вельмі прыгожы малады чалавек, са смелым, адкрытым поглядам, у святочным гарнітуры, белай кашулі, пры гальштуку. І ўзнагароды часоў вайны. Захапленне, радасць, гонар (вось яно, маладое пакаленне, якое ўступае ў жыццё: адукаваныя, прыстойныя, сумленныя) выклікае здымак. Але, на жаль, гэта святочны бок падзеі, які не адлюстроўваў таго, што было насамрэч. Што тварылася ў сэрцы, у думках выпускніка педінстытута. Ізноў звяртаемся да старонак „Развітання з ілюзіямі". У беларускіх вёсках раней высока цанілі адукаваных людзей. Так было і на Радзіме Аляксея Карпюка: „Атрыманне дыплома, аб якім у маёй вёсцы да вайны гаварылі як аб нечым недасяжным і магутным: ён бытта бы ўсюды для цябе адкрывае дарогу". Карпюку хапіла аднае размовы ў аблана, каб зразумець, як усё змянілася на гэтай зямлі. Як тое, што спрадвеку лічылася вялікай каштоўнасцю, пры новай уладзе дыскрэдытуецца, траціць сэнс: „Мяне аж перакасіла ад такога інструктажу, а дыплом здаўся звычайнымі вокладкамі з кардону, абклеенымі чорным дэрмацінам".

Фінал аповесці „У адным інстытуце" класічна аптымістычны. Здадзены выпускныя экзамены. Вясёлы гурт учарашніх студэнтаў накіроўваецца да Нёмана, які вабіць прыгажосцю, прахалодаю, таямнічасцю вечнага руху. Кудысьці далёка, наперад, да нейкае невядомае мэты імчыць магутная рака. „Гэтыя хлопцы і дзяўчаты таксама ўпарта імкнуліся да свае мэты. Зараз яны выходзілі на шлях, дзе іх жыццё будзе больш плаўным, упэўненым, шырокім". І як жа без пажадання: „Шчаслівай дарогі, сябры!"

Ведаем, што не стане яна шчаслівай. Што кінуты будуць гэтыя маладыя людзі ў самы вір „таго катаклізму, які зваліўся на мой край" („Развітанне з ілюзіямі").

А што было тады, у тым далёкім 1953 годзе, калі ў часопісе „Маладосць", дзякуючы Янку Брылю, была надрукавана аповесць „У маладыя гады"? З гумарам апавядае пісьменнік пра радасныя пачуцці, што перапаўнялі душу маладога аўтара, і пра цалкам абыякавую рэальнасць, у якой гэтым пачуццям месца не было: „Пасля выхаду яе ў свет паехаў у Гродна. Падзеі аповесці адбываюцца ў гэтым горадзе, там жылі мае прататыпы, і мне чамусьці здалося, што ўвесь горад павінен святкаваць сваё ўвекавечанне і быць мне надта ўдзячны. Тым часам ішоў з вакзала па вуліцы Ажэшкі і з расчараваннем бачыў, што і дамы гэтаксама стаяць, як раней, і гэтаксама бягуць па тратуарах заклапочаныя людзі". А далей зачын да таго, што застанецца па-за „Маёй Джамалунгмай". Не абавязкова, каб такое было насамрэч, але быць магло:

„Ля піўнога ларка стаяў мой сябар — адзін з герояў аповесці.

— Валодзя, здароў! — крыкнуў я з пераможнай радасцю.

— А, гэта ты? — чамусьці нахмурыўся сябар і адставіў куфель з півам. — Дык што ты там на мяне набрахаў у кніжцы?..

І пачаў закасваць рукавы".

Альжбета КЕДА

## Stanowisko strony mniejszościowej Komisji Wspólnej Rządu i Mniejszości Narodowych i Etnicznych w kwestii funkcjonowania kultury mniejszości narodowych i etnicznych w warunkach pandemii koronawirusa

Pandemia koronawirusa zmieniła fundamentalnie sposób funkcjonowania całego społeczeństwa, w tym także mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym. Niebezpieczeństwo zakażenia oraz wprowadzone przez rząd ograniczenia wpłynęły na możliwy zakres działań we wszystkich sferach życia społecznego, wymuszając poszukiwanie nowych form aktywności, które pozwalałyby na realizowanie podstawowych zadań niezbędnych dla funkcjonowania jednostek i społeczeństwa. Całość życia społecznego wymaga zachowanie nowych procedur i warunków zapewniających minimalizowanie zagrożenia.

Jedną ze sfer, która szczególnie odczuła skutki pandemii koronawirusa oraz mających na celu jej spowolnienie ograniczeń, jest życie kulturalne mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym. Wynika to z wielu czynników. Jednym z najważniejszych jest brak instytucji kultury mniejszości narodowych i etnicznych, posiadających finansowanie ze środków publicznych w formie subwencji. Obecna sytuacja ujawniła i wyostrzyła skalę problemów i zagrożeń oraz negatywnych skutków nieprzewidzianych zdarzeń. Jedną z głównych przyczyn wielu z nich jest obowiązujący w Polsce system finansowania kultury mniejszości oparty na jednorocznych grantach na poszczególne zadania dedykowanych dla organizacji pozarządowych mniejszości narodowych i etnicznych. W chwili obecnej publiczne instytucje kultury (w tym domy kultury, biblioteki) w ramach swej działalności, finansowanej ze środków publicznych, mają możliwość elastycznie dostosowywać formy działań do nowych warunków, wymuszonych przez pandemię i ograniczeń z nią związanych. W przypadku pełniących rolę kulturotwórczą organizacji pozarządowych mniejszości nie jest to możliwe ze względu na schemat finansowania, narzucający sztywne ramy i skutkujący brakiem elastyczności i możliwości szybkiego dostosowania się do niestandardowej sytuacji. Paradoksalnie pandemia koronawirusa ujawniła jak w soczewce negatywne zjawiska w zakresie funkcjonowania kultury mniejszości narodowych i etnicznych w Polsce, których istnienie i wynikające z nich ograniczenia środowiska mniejszościowe sygnalizują od wielu lat.

Organizacje pozarządowe mniejszości są również pracodawcami. Niezwykle istotnym problemem jest kwestia osób zatrudnionych przy realizacji działań mających na celu ochronę, zachowanie i rozwój tożsamości kulturowej mniejszości, w tym także finansowanych z dotacji MSWiA. Przerwanie tych działań i niemożność wydatkowania środków na ten cel może oznaczać — w przypadku przerwania zatrudnienia — zburzenie obecnie istniejącego wątłego mechanizmu funkcjonowania systemu kultury mniejszości oraz niemożność odbudowania zasobu kadrowego w przyszłości, gdyż osoby te zmuszone będą znaleźć inne zatrudnienie.

Państwo podejmuje lub zapowiada obecnie różnorodne działania, aby zapewnić funkcjonowanie w obliczu pandemii różnych sfer życia społeczeństwa od gospodarki poprzez kulturę po trzeci sektor. W naszym przekonaniu dla zachowania ciągłości działań mających na celu ochronę, zachowanie i rozwój tożsamości kulturowej mniejszości również konieczne jest podjęcie stanowczych i daleko idących kroków ratunkowych ze strony instytucji państwa polskiego. Apelujemy o stworzenie tarczy antykryzysowej dla mniejszości!

Postulujemy, aby podjęte zostały przez Rząd szybkie działania mające zapewnić dalsze funkcjonowanie życia kulturalnego mniejszości w warunkach pandemii. Uważamy, że powinny to być zarówno kroki umożliwiające bieżące funkcjonowanie inicjatyw kulturalnych mniejszości, jak i działania długofalowe.

Proponujemy podjęcie następujących działań.

**1.** Zapewnienie wydatkowania dotacji MSWiA przez organizacje mniejszościowe w przyznanej wysokości ze stworzeniem możliwości daleko idących zmian w treści merytorycznej zadań, modyfikujących je i dostosowujących do nowej sytuacji wynikającej z zagrożenia epidemicznego (np. zamianę przedsięwzięć typu festiwale, koncerty, spotkania na inne formy działań kulturalnych, np. realizowanych on-line czy też zamiana ich na wydawnictwa), tak aby organizacje nie były pozbawione przyznanych dotacji.

**2.** Właściwym byłoby stworzenie możliwości przesuwania środków pomiędzy zadaniami, na które dana organizacja mniejszościowa otrzymała dotacje w 2020 r., lub scalania zadań w jedno zadanie oraz umożliwienie modyfikacji kosztorysów i zakresów działań stosownie do aktualnej sytuacji.

**3.** Uproszczenie mechanizmu sporządzania aneksów do umów, w tym dopuszczenie zawierania aneksów z mocą obowiązującą od dnia podpisania umowy.

**4.** Stworzenie możliwości procedowania w kwestiach dotyczących zadań realizowanych dzięki dotacji MSWiA kanałami elektronicznymi, wykorzystującymi podpis kwalifikowany lub profil zaufany, bez konieczności wysyłania podpisanych dokumentów pocztą tradycyjną.

**5.** Jednoznaczna gwarancja rozliczenia wydatków z dotacji MSWiA już poniesionych przez zleceniobiorcę na działania, których ostatecznie nie uda się zrealizować z powodu pandemii.

**6.** W przypadku rozwiązania lub niepod-




Гэтымі днямі праваслаўныя цэлага свету святкуюць галоўнае рэлігійнае свята — Вялікдзень — Дзень Уваскрэсення Хрыстовага. Але сёлетняе свята для беларусаў, прычым не толькі праваслаўнага веравызнання, крыху больш значнае, чым для іншых, бо з гэтага года з'явіўся сайт, дзе змешчаны беларускамоўныя тэксты Святога Пісання і нават іх агучаныя версіі. Каб пачытаць ці паслухаць Біблію па-беларуску, трэба набраць на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **https://www.biblija.by**.

„Тут вы можаце чытаць Біблію анлайн на беларускай мове ў розных перакладах, слухаць Новы Запавет у аўдыяфармаце, спампаваць Біблію на свае прылады для зручнейшага выкарыстання, а таксама даведацца гісторыю перакладаў Слова Божага на беларускую мову", — такімі словамі сустракае інтэрнэт-карыстальніка сайт „Біблія". Ніжэй пад гэтымі словамі месціцца гузік з надпісам „Чытаць". Калі клікнуць на яго мышкай, то перад намі адкрыецца дзевяць файлаў з перакладамі. Там ёсць як пераклады, зробленыя апантанымі людзьмі, так і тыя, што зрабілі адпаведныя камісіі пры Беларускім экзархаце Рускай Праваслаўнай Царквы і Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

Калі вярнуцца на галоўную старонку сайта і пракруціць колкам мышкі, то ніжэй убачым выйсце на рубрыку „Слухайце Новы Запавет у прамым эфіры". Адтуль мы трапляем на YouTube-канал хрысціянскага радыё „Адкрытае слова", якое і транслюе Новы Запавет. „Радыё «Адкрытае Слова»" пачало працу ў верасні 2017 года ў Менску. Гэта хрысціянскае радыё, але мы рады слухачам любога веравызнання. Наша мэта — даць магчымасць людзям пачуць словы, музыку, якія закрануць іх душу, сэрца і нагадаюць пра Бога Стварыцеля і Збаўцу Ісуса Хрыста", — прэзентуюць сябе паплечнікі „Бібліі".

Таксама тэкст Святога Пісання можна спампаваць на смартфон ці айфон. Існуе і версія Бібліі, адаптаваная для дзяцей.

Апошняй рубрыкай сайта з'яўляецца „Гісторыя перакладу Бібліі на беларускую мову". У ёй некалькі падрубрык, якія змяшчаюць па адным тэксце. Гэта гісторыя перакладу, а таксама „Нябеснае полымя" пра пачатак беларускага перакладу Новага Запавету і Псальмаў, „Дарога да слова" (артыкул айца Сяргея Сурыновіча), „Бібліяграфія перакладаў Бібліі на беларускую мову", „Розныя біблійныя пераклады на беларускую мову" і „Біблія ў перакладзе Францыска Скарыны".

„Біблія зьяўляецца ключавой кнігай для чалавецтва. Чытаючы Біблію, чалавек атрымлівае магчымасьць зьвярнуцца да Госпада і зьмяніць сваё жыцьцё. Таму на працягу ўсёй гісторыі прысутнічала сталая патрэба ў тым, каб людзі маглі чуць Слова Божае на сваёй мове", — адзначаецца там.

Цікавай падаецца і рубрыка „Матэрыялы". Практычна ўсе анонсы матэрыялаў там вядуць у YouTube, дзе можна паглядзець падрыхтаваныя відэасюжэты пра Скарынаўскую Біблію, Біблію для дзяцей, факты, датычныя беларускай Бібліі. Таксама там знаходзіцца кароткі пераказ Берасцейскай Бібліі, напісанне якой датуецца 1563 годам.

Варта адзначыць, што напісаннем Бібліі па-беларуску апошнія гады займаліся як беларуская праваслаўныя, так і беларускія каталікі. У гэтым ім дапамагала Біблейскае таварыства, пра сайт якога „Ніва" пісала амаль тры гады таму — у № 24 за 11 чэрвеня 2017 года.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара

# 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея КАРПЮКА

Беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч Аляксей Карпюк нарадзіўся 14 красавіка 1920 г. у вёсцы Страшава на Падляшшы. Паходзіў з сялянскай сям'і, бацька быў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У 1934 г. скончыў сямігодку і навучаўся ў польскай гімназіі ў Вільні, а пасля яе закрыцця ў 1939-1941 гг. вучыўся ў Навагрудскай педагагічнай вучэльні.

У час Другой сусветнай вайны браў удзел у партызанскім руху. У снежні 1942 г. трапіў у нямецкі палон у канцлагер Штутгаф, што пазней востра адбілася на яго біяграфіі. З канцлагера Аляксей Карпюк здолеў уцячы і зноў пайшоў у партызаны. Там арганізаваў з мясцовай моладзі партызанскі атрад імя Кастуся Каліноўскага і стаў ягоным камандзірам. У жніўні 1944 г. яго забралі ў Чырвоную Армію. Быў двойчы паранены.

Пасля вайны Аляксей Карпюк паступіў у Гродзенскі педінстытут (аддзяленне англійскай мовы), які скончыў у 1949 г. Працаваў загадчыкам раённага аддзела адукацыі ў Сапоцкіне, але з-за канфлікту з кіраўніцтвам пераведзены на пасаду дырэктара сямігадовай школы ў вёсцы Біскупцы Ваўкавыскага раёна. Пазней працаваў журналістам „Гродзенскай праўды" і „Літаратуры і Мастацтва", стаў першым дырэктарам Беларускага музея гісторыі рэлігіі і атэізму. Гэтая ўстанова пры ім стала асяродкам беларускай культуры, актыўна вяла экспедыцыі ў Беларусі і за яе межамі, збіраючы цікавыя экспанаты. Вядомы факт, як Карпюк асабіста ў Яраслаўлі знайшоў дом, дзе жыла сям'я Багдановічаў і прывёз у Беларусь больш за 70 экспанатаў.

Вакол Аляксея Карпюка ў 1960-1970-х гадах узнік своеасаблівы клуб вальнадумнай інтэлігенцыі. У розныя часы з гэтым асяродкам кантактавалі Васіль Быкаў, Данута Бічэль, Вольга Іпатава, Браніслаў Ржэўскі і іншыя гродзенцы. Карпюк пашыраў забароненую ў БССР літаратуру, ліставаўся з Аляксандрам Салжаніцыным, кантактаваў з сям'ёй Ларысы Геніюш з Зэльвы. Супрацоўнікі КДБ шмат гадоў назіралі за Аляксеем Карпюком, але не было такіх месцаў, дзе пісьменнік баяўся казаць праўду.

Вясной 1972 г. Аляксей Карпюк быў выключаны з КПСС па абвінавачванні ў нацыяналізме, кулацкім паходжанні, хлусні пра сваё мінулае. Ён нідзе не мог уладкавацца на працу. Але дзякуючы Пятру Машэраву яго аднавілі ў партыі. У 1978-1982 гадах Аляксей Карпюк працаваў сакратаром Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Пазней актыўна ўдзельнічаў у дэмакратычным жыцці Гродна: адзін з актывістаў БНФ, адзін з заснавальнікаў „Бацькаўшчыны", меў цесныя кантакты з клубам „Паходня". У друку Аляксей Карпюк дэбютаваў у 1953 г. аповесцю „У адным інстытуце". Выйшлі яго кнігі аповесцей і апавяданняў „Дзве сасны", „Данута", „Мая Гродзеншчына", „Пушчанская адысея", „Вершалінскі рай", „Партрэт", „Сучасны канфлікт", раман „Карані", „Выбраныя творы" ў двух тамах і многія іншыя. Адзін з папулярных твораў пісьменніка — аповесць „Данута".

Аляксей Карпюк быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам польскага ордэна „Віртуці Мілітары". Заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя Івана Мележа за кнігу „Сучасны канфлікт".

Памёр Аляксей Карпюк у Гродне 14 ліпеня 1992 года. Пахаваны на гарадзенскіх могілках на праспекце Касманаўтаў на адным з цэнтральных шэрагаў. Адна з вуліц у Гародні носіць імя Аляксея Карпюка. 15 красавіка 2019 года на доме па вуліцы Ажэшкі ўрачыста адкрыта памятная шыльда.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

pisania wielu umów (czego należałoby uniknąć), koniecznym wydaje się ogłoszenie dodatkowego konkursu na dotacje, aby rozdysponować te środki zgodnie z przeznaczeniem zapisanym w ustawie budżetowej.

**7.** Sądzimy, że w istniejącej sytuacji należy rozważyć modyfikację zasad przyznawania dotacji MSWiA na 2021 r., dostosowując je do aktualnej sytuacji oraz idąc w kierunku docelowych zmian w modelu ochrony, zachowania i rozwoju tożsamości kulturowej mniejszości.

**8.** Uzasadnionym wydaje się wstrzymanie na czas zagrożenia epidemicznego działań MSWiA w zakresie kontroli zadań realizowanych w 2019 r. przez organizacje mniejszościowe oraz uproszczenie formalnych procedur dotyczących zadań realizowanych w 2020 r. Podejmowanie przez organizacje mniejszościowe oczekiwanych przez MSWiA działań w okresie zagrożenia epidemicznego, ogłoszonego w dniu 12 marca 2020 r., a tym bardziej w warunkach stanu epidemii i ograniczeń dotyczących przemieszczania się osób, obowiązujących od 25 marca 2020 r., jest utrudnione, a często niemożliwe, bez narażania siebie i innych na zagrożenie epidemiczne oraz łamanie obowiązujących zasad bezpieczeństwa, w tym ograniczeń w przemieszczaniu się.

**9.** Konieczną jest zmiana Zarządzenia Prezesa Rady Ministrów w sprawie regulaminu pracy Komisji Wspólnej Rządu i Mniejszości Narodowych i Etnicznych w kierunku stworzenia możliwości odbywania posiedzeń Komisji w formie wideokonferencji lub innej zdalnej formie oraz innych modyfikacji regulaminu umożliwiających zdalną pracę Komisji.

**10.** Niezbędną wydaje również nowelizacja ustawy Prawo o stowarzyszeniach w kierunku dania organom stowarzyszeń możliwości zdalnego procedowania i podejmowania decyzji bez konieczności przeprowadzania zebrań, co w obecnej sytuacji epidemicznej i w warunkach wprowadzonych ograniczeń w przemieszczeniu się, nie jest możliwe i paraliżuje działalność stowarzyszeń, które nie mają w statutach zapisów pozwalających na zdalne podejmowanie uchwał i decyzji.

**11.** W perspektywie długofalowej pilnym wydaje się podjęcie prac nad nowym modelem funkcjonowania życia kulturalnego mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym w Polsce. Kryzys spowodowany pandemią i możliwe załamanie się dotychczasowego modelu może mieć katastrofalne, w wielu przypadkach nieodwracalne, skutki dla ochrony, zachowania i rozwoju tożsamości kulturowej mniejszości.

Uważamy, że koniecznym jest podjęcie przez Rząd, w oparciu o zaprezentowane stanowisko strony mniejszościowej Komisji Wspólnej Rządu i Mniejszości Narodowych i Etnicznych, pilnych kroków w celu zapewnienia ciągłości działań mających na celu ochronę, zachowanie i rozwój tożsamości kulturowej mniejszości. Jeżeli dojdzie do załamania istniejącego, niedoskonałego systemu, niezwykle trudno będzie go odbudować, gdyż w przypadku zachowania tożsamości i ciągłości przekazu kulturowego mniejszości narodowych i etnicznych mamy do czynienia z ograniczonym potencjałem i niewielkimi możliwościami wsparcia poza budżetem państwa.

***Grzegorz Kuprianowicz***
Współprzewodniczący Komisji Wspólnej Rządu
i Mniejszości Narodowych i Etnicznych,
reprezentujący mniejszości
Warszawa, 1 kwietnia 2020 r.

*Votum separatum* wobec niniejszego stanowiska zgłosił członek KWRiMNiE przedstawiciel mniejszości romskiej Pan Bogdan Trojanek.

## У Міклашэве — прыгожыя хаты

У даволі вялікай вёсцы Міклашэва Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пражывае 170 чалавек. Цераз яе пралягае павятовая асфальтавая дарога з Нараўкі ў Семяноўку (паабапал яе стаіць даволі блізка адзін ад другога 25 дамоў (ёсць і па два дамы на адным панадворку), а 50 дамоў на адасобленых участках на г.зв. калёніях.

У Міклашэве пераважаюць драўляныя хаты. Тыя абжытыя ўсе прыгожыя, дагледжаныя. Драўляныя хаты — такія свойскія, як кажуць, найбольш прыязныя чалавеку. У іх яшчэ захоўваюць колішнія камоды і крэдэнсы, дзежкі, капанькі, бочкі, маслабойкі, калаўроткі, валкаўніцы і іншыя прадметы хатняга карыстання сама менш паўвекавой даўнасці. Зараз шматлікія драўляныя хаты аднолькава (першнаперш ашаляваныя, забейцаваныя або памаляваныя на карычневы, аранжавы і ярка-жоўты колер ды з ганачкамі. Калі прыгожыя дамы і платы каля іх, тады і вёска прыгожая і ўсім падабаецца.

У Міклашэве кідаюцца ў вочы прыгожыя драўляныя хаты (яны пераважна з ганачкамі) цікавай архітэктуры, між іншым, Андрэя Каліноўскага, Яна Дразда, Іаанны Мэрынг, Сяргея Трусевіча і Тамары Анішчук. **(яц)**

## З „Нівай” да чытачоў

Зараз, калі на свеце шалее эпідэмія каранавіруса, пастаянныя чытачы „Нівы” не расстаюцца з беларускім штотыднёвікам. У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ўсе экземпляры роднай газеты, якія прывозяць на пошту і крамы ў Нараўцы прадаюцца.

Кожны чацвер 6-8 экземляраў а то і больш „Нівы” мне прывозіць наш лістаноша Юрка Дрозд. Вялікае дзякуй яму за гэта. Спадар Юрка шматгадовы вялікі сябра „Нівы”. Ён штогод прадае ўсе экземпляры нашага тыднёвіка з беларускім календаром, якія прывозяць на пошту, дзе ён працэ.

Я цяпер у змозе прывезці „Ніву” пастаянным чытачам у Новым і Старым Ляўкове, Лешуках, Новінах і Плянце. Зараз нас папярэджваюць: застанься дома. Газеты пераважна ўкідаю ў паштовыя скрынкі. Інакш бывае толькі ў тым выпадку, калі хто не мае скрынкі. **(яц)**

Фота Янкі Целушэцкага



Цвітуць анемоны (скароздра, кураслеп)

## 19.04 — 25.04

**(22.03. — 20.04.)** 19-20.04. спаткаеш кагосьці вартага ўвагі. З 24.04. могуць выпаўзці скрываныя правіны. З 24.04. лёс цябе выставіць на вастрыё крытыкі, і хіба мала хто цябе падтрымае. Маюць шанцы разбагацець народжаныя ў II дэкадзе. Больш адпачывай. З 25.04. не зрабі невыбачальнай памылкі.

**(21.04. — 21.05.)** 19-23.04. трымай шырока адкрытыя вочы — будуць шчаслівыя нагоды. Але 19-23.04. могуць ахапіць цябе сум і самота. 24-25.04. могуць раздрапацца незагойныя раны. Пакінь вытаптаныя сцежкі і дапасуйся да новых акалічнасцей. 22-24.04. пачні — удалую! — дыету для пахудзення.

**(22.05. — 22.06.)** Твая краса і дружалюбнасць адкрыюць перад табою не адны дзверы. 20.04. плануй адпачынак на восень. Венера паставіць на тваёй дарозе зычлівыя асобы. Трэба будзе зашыцца дзесьці ў куточку, але ж схочацца загуляць у кампаніі... 19.04. афармляй важныя справы, хай і праз камп'ютар. 21-25.04. твае добрыя парады не будуць прыняты з удзячнасцю.

**(23.06. — 23.07.)** Што ж, трэба будзе пабыць дома, няхай і аднаму. Многа работы, але добра, што яна ёсць. У рэалізацыі асабістых планаў падтрымлівае цябе Юпітар у апазіцыі. Будзеш больш адважны, менш нясмелы. 22-24.04. будзе нагода паказаць, які ты неабходны ў фірме; будзеш экспертам. З 24.04. знойдзеш спосаб як развязаць праблемы, якія цябе турбавалі. У каханні будзеш не толькі жарсны, але і захопніцкі.

**(24.07. — 23.08.)** На працы ўсе справы пад кантролем. Расшырай абсяг працы і супрацоўніцтва. Могуць паявіцца нагоды, аб якіх мог бы ты толькі памарыць. 21-25.04. — ідэальны час на цяжкія вырашэнні і дзеянні, якія патрабуюць засяроджанасці, адчаю і ўпартасці. З 24.04. не пападай у крайнасці.

**(24.08. — 23.09.)** Можаш падумаць аб уласнай фірме. Але не дзейнічай неабдумана. Інтэнсіўна праведзены час, хоць у большасці дома, аднаразова адпачнеш і адновіш сілы. Не засяроджвайся на дэталях, ахапляй усё цэласна. З 24.04. пачнецца найлепшы час на афармленне спраў ва ўстановах анлайн. Не паддавайся некантраляваным імпульсам! Можаш непланавана зацяжарыць!

**(24.09. — 23.10.)** 19-20.04. ніхто перад табою не ўстаіць. Неабгрунтаваныя падазрэнні могуць змуціць твой спакой з 24 (да 26.04.). Варта заінвеставаць у паляпшэнне іміджу свайго і сваёй фірмы. Не ўсе планы зрэалізуеш. Адмоўся ад цукру. Шалі, народжаныя ў вернасці, мусяць быць вельмі асцярожныя.

**(24.10. — 22.11.)** 22-24.04 зоркі памогуць табе дайсці да блізкіх і партнёра. Будзеш умець выкарыстоўваць нагоды і здабытыя ўплывы. З 24 (да 26.04.) магчымыя непаразуменні на працы і ў кантактах з шэфам; не стаў усяго на адну карту. Пачні трэнінг дома, а таксама прымі ўдзел у нейкіх майстар-класах анлайн датычных фізічнага і духовага развою. Адчуеш веснавую стому.

**(23.11. — 22.12.)** Адкрыешся на свет, спазнаеш свае магчымасці. З 24.04. (да 26.04.) цяжка будзе вывязацца з абяцанняў цяпер складзеных. Гарачы раман на пачатку тыдня. З 24.04. магчымыя хатнія спрэчкі; старайся не ўключацца ў тое, што цябе моцна не датычыць. Рассеянасць, а прытым самаўпэўненасць. Затое ў апошняй дэкадзе красавіка можа зноў успыхнуць прыгаслае каханне!

**(23.12. — 20.01.)** 22-24.04. можаш атрымаць прэмію ці падпісаць кантракт стагоддзя! Можаш убачыць другое дно ў шмат якіх справах. З 24.04. можаш правесці сур'ёзную размову з партнёрам наконт вернасці. Народжаны ў II дэкадзе ўзмоцняць свае бізнесовыя адносіны і рушаць з важнай кампаніяй. Добры час для шукаючых працу і на заснаванне ўласнай фірмы. Дома трэніруй сам і пры інструктары анлайн.

**(21.01. — 19.02.)** 19.04. пазнаёмішся з кімсьці цікавым. 19-23.04. будзеш вельмі ўпарты і лішне прынцыповы; з-за гэтага можаш шмат страціць. 19-20.04. стане перад табою чарга прыхільнікаў. Не памылі тады зачаравання з сапраўдным каханнем. З 24.04. (да 28.04.) не думай пра змену працы; неўзабаве ў тваёй фірме ўсе паладзіцца і твой рэйтынг узрасце. Венера абяцае большыя грошы да канца месяца. Цяпер удала можаш парваць са сваімі заганамі.

**(20.02. — 21.03.)** Магчымы любоўныя завіраванні. З 24.04. роздумы над уласным жыццём. Магчымыя праблемы на працы з-за недахопу людзей. На бягуча папаўняйце заданні, купляйце асцярожна і пры кансультацыі з калектывам. На прапановы глядзі крытычна. Цудоўная быццам бы прапанова можа мець другое дно. Слухай выключна сваю інтуіцыю. Не ўсё пойдзе па тваёй думцы. Не так зразумееш чыесьці словы, што выкліча лавіну памылак. Асабліва ўзірайся на экстра фінансавыя нагоды.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | | 2 | | 3 | | | | | | 4 |
| | 5 | | | | | 6 | | | | | | | | | | | |
| | | | 7 | | | 8 | | | 9 | 10 | | | 11 | 12 | | | 13 |
| | | | | | | | | 14 | | 15 | | | | | 16 | | |
| 17 | | 18 | | | | | 19 | | | | | | | | | | |

**1.** белая вадкасць для млекакормленых, **2.** мангольская пустыня, **3.** нізкі пярэдні край кашулі, сукенкі, **4.** з яе сена, **5.** пара года для лыжнікаў і канькабежцаў, **6.** памяшканне пад першым паверхам для, напрыклад, захоўвання гароднiны, **7.** злучае мозг з адлеглымі часткамі цела, **8.** крэдытная ўстанова, **9.** асобная кніжка буйнага твора, **10.** возера на ўсходзе Турцыі, **11.** напрыклад, невад, **12.** Міхась, аўтар „Міколкі-паравоза”, **13.** духавы музычны інструмент з раструбам на канцы, **14.** у ім душа, **15.** дарожнае збудаванне над ракою, **16.** дарожная мера адлегласці большая за вярсту, **17.** дочкі і сыны, **18.** магутная прыродная падзея, напрыклад, ураган, **19.** шые, але не шавец.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Агонь, пушча, Венера, Трокі, узор, гасціна, лоб, Ліда, прырода, Ажэшка, зерне, эра.

Рашэнне: **Шчасце не конь, у аглоблі не запражэш**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.


https://ru.wikipedia.org/

# Апакаліпсіс

**Шаснаццаты раздзел новазапаветнага Апакаліпсіса пачынаецца са слоў: „І пачуў я з храма гучны голас да сямі ангелаў: Ідзіце і выліце чашу гневу Божага на зямлю. Пайшоў першы ангел і выліў сваю чашу на зямлю; і парабіліся страшэнныя і праціўныя гнойныя раны на людзях у выглядзе звярэй...”.**

Паколькі некаторыя біблейскія карціны трэба разглядаць як алегорыі, то і гэтую таксама. Хто ведае, ці гэта не той апакаліптычны першы ангел выліў вось чашу гневу Божага на галовы цяперашніх хцівых людзей, быццам аздабляючы іх такою адмысловаю „каронай”, ранай, якая вось запыніла нармальны ход падзей, якая ўзарвала на ногі людзей ва ўсім свеце. Колькі ўжо разоў розныя аракулы прарочылі канец свету... 10 сакавіка 1982 года ўсе планеты мелі выстраіцца ў адзін рад і гэта мела прынесці катастрофу ўсёй зямлі; аднак падзея гладзенька і бязбедна прамінула. Чарговыя канцы свету мелі наступіць у 1999 і 2000 гадах... А можа не ад планет мае прыйсці той канец?.. Мой дзед калісь прарочыў, што калісь Бог пакараў людзей патопам, а ў наступны раз зробіць гэта агнём і мячом. Значыць — вайна? А можа заміж агню толькі гарачка, як гэта адбываецца цяпер?.. Як бы не было, да апакаліптычных прароцтваў трэба адносіцца сур'ёзна, бо ж хіба нездарма шматлікія аўтары пісалі свае апакаліпсісы, свае відзежы канца свету, прадвяшчаючы страшны суд. Апакаліпсіс гэта, з грэцкай мовы, адкрыццё прыхаваных тайнаў боскім абраннікам. Таму некаторыя з тых твораў прыняты ў рэлігійныя каноны.

Ужо ў Евангеллях паяўляюцца прадвесці Страшнага суда, напрыклад, у 13-м раздзеле Евангелля ад Матфея: „Чалавек, які высявае добрае семя гэта Сын Чалавечы; поле гэта свет, добрае семя гэта сыны Царства. Пустазелле гэта сыны зла; вораг, сеючы іх, гэта д'ябал. Як пустазелле збіраецца і спальваецца ў агні, гэтак жа будзе і ў канцы веку. Сын Чалавечы пашле сваіх ангелаў сабраць з Царства ўсіх спакушальнікаў на грэшнае і ўсіх учыняючых зло. І ўкінуць іх у печ вогненную, дзе будзе плач і скрыгат зубоў. Тады праведнікі заззяюць як сонца ў Царстве іх Айца”.

Найбольш вядомы Апакаліпсіс Іаана Багаслова, які завяршае Новы запавет; напісаны ён быў у час пераследу хрысціян. Шосты раздзел: „І ўбачыў я, што Агнец зняў першую з сямі пячацей, і я пачуў адну з чатырох жывёл гаворачую быццам грамавым голасам: Ідзі і глядзі. І глянуў я, а вось белы конь, а на ім яздок з лукам і пад вянцом, як пераможца. І калі Ён зняў другую пячаць, пачуў я другую жывёлу, гаворачую: Ідзі і глядзі. І выйшаў другі конь, рыжы, і сядзячаму на ім дадзена было забраць мір з зямлі, каб забіваліся ўзаемна, і дадзены быў яму вялікі меч. І калі Ён зняў трэцюю пячаць, пачуў я трэцюю жывёлу, гаворачую: Ідзі і глядзі. Я глянуў, і вось конь чорны, а на ім яздок з меркай у руцэ. І пачуў я голас пасярод жывёл, гаворачы: Кварта пшаніцы за днёўку і тры кварты ячменю за днёўку і не псуй алею і віна. І калі Ён зняў чацвёртую пячаць, я пачуў голас чацвёртай жывёлы, гаворачы: Ідзі і глядзі. І глянуў я, і вось конь палавы, а на ім яздок, якому імя смерць, і пекла ішло ўслед за ім, і дадзена яму ўлада над чацвярцінай зямлі — умярцвяць мячом і голадам, і морам, і зямнымі звярамі. (...) І ўгледзеў я мёртвых, малых і вялікіх, якія стаялі перад Богам, і кнігі былі разгорнутыя; і другая кніга была разгорнутая, якая ёсць кніга жыцця. І былі суджаны мёртвыя, згодна з напісаным у кнігах, паводле ўчынкаў сваіх. Тады аддало мора мёртвых, што былі ў ім, і смерць і пекла аддалі мёртвых, якія былі ў іх, і суджаны быў кожны паводле ўчынкаў сваіх. І смерць і пекла ўкінуты ў возера вогненнае. І хто не быў запісаны ў кнігу жыцця, той быў кінуты ў возера вогненнае...”.

Гэта не адзінае кананічнае вяшчанне канца. Старазапаветная кніга прарока Данііла таксама нясе нам перспектыву будучай справядлівасці. Кніга была напісана ў час ганення яўрэяў язычніцкімі ўладарамі ў II стагоддзі да н.э. і аўтар прыводзіць у ёй некалькі відзежаў, прарочачых канец вавілонскай і персідскай імперый і перамогу прыгнятаных над прыгнятаючымі. „І паўстане ў той час Міхаіл, князь вялікі, заступаючы сыноў твайго народа; і наступіць цяжкі час, якога не бывала з тае пары, калі існуюць людзі, да гэтай пары; ды ўратуюцца ў той час з твайго народа ўсе, якія знойдуцца запісанымі ў кнізе. І многія са спячых у праху зямлі прабудзяцца, адны для вечнага жыцця, іншыя на вечнае ганьбаванне. І разумныя будуцьззяць як свяцілы на небе, а павярнуўшыя многіх да праўды — як зоркі, навекі, назаўсёды. А ты, Данііл, схавай гэтыя словы і запячатай кнігу гэтую да апошняга часу; многія прачытаюць яе і асвядомяцца...”.

Кніга прарока Данііла ў ліку кананічных кніг Бібліі. Апрача кананічных апакаліпсісаў ёсць яшчэ і некананічныя кнігі, прарочачыя ўстанаўленне новага, справядлівага парадку; кнігі гэтыя пісаныя яўрэйскімі аўтарамі. У іх ліку Другая кніга прарока Езры, які быў палонены персідскім каралём Артаксерксам у пятым ст. да н.э. У кнізе расказваецца пра сем відзежаў прарока. У першай відзежы прарок пытае архангела Урыіла, чаму ў свеце так многа зла, чаму Бог не памагае свайму народу, чаму не здзяйсняюцца запаветы. Урыіл адказвае: „Зло, пра якое ты пытаеш, было пасеяна, але яшчэ не пара збіраць ураджай. Спачатку зерне зла было пасеяна ў сэрцы Адама. І пабач, колькі дрэннага нарабілася. І ўяві, які страшэнны ўраджай будзе ў дзень жатвы”. „А колькі ж чакаць гэтага? — пытае Езра. — Чаму наша жыццё так кароткае і поўнае пакут?” — „Не спяшай. Усемагутны Бог думае не толькі пра цябе, Ён думае пра ўсіх. Такое ж пытанне ставяць душы праведных у месцах адведзеных ім для чакання: Колькі мы мусім чакаць, калі надыдзе Судны дзень? Трэба чакаць аж запоўніцца лік падобных пакутнікаў. Бог узважвае вякі, мерае гады, лічыць дні. Нішто не зменіцца пакуль усё ідзе прадбачаным курсам”.

У трэцяй відзежы Урыіл паведамляе: „У Судны дзень не будзе ні сонца, ні месяца, ні зорак, ні хмар, грому, маланак, ні ветру, вады, ні паветра. Ні змроку, вечара, ні раніцы. Ні лета, вясны, ні зімы. Ні спёкі, марозу, ні холаду. Ні граду, дажджу, ні туману. Ні поўдня, ночы, ні світання. Ні золаку, бляску, ні святла. Адзіным святлом будзе светласць Усявышняга, каб кожнага бачыць. Суд зойме сем гадоў. Настане бяда і многія людзі застогнуць. Настане голад і многія памруць. Прыйдзе вайна і задрыжаць моцныя. Настануць жахі і многія перапякаюцца. Голад, пошасці, беды і мукі будуць сасланы пакараць і выправіць людзей. Нягледзячы на гэта яны не адвернуцца ад іх грахоў, умомант забудуць пакаранне. Настане час таннай яды і людзі падумаюць, што настаў мір і дабрабыт. А тады беды ўспыхнуць усюды — войны, голад і бязладдзе. Многія памруць ад голаду, а хто выжыве, той загіне ад вайны. Іх целы будуць выкінуты як смецце і не будзе нікога, хто б пацешыў жывучых. Зямля спустошыцца і гарады разваляцца. Не будзе нікога хто ўзрыхліць зямлю і засее. Дрэвы дадуць плады, але немагчыма будзе сабраць. Паспее вінаград, але ніхто не зробіць віна. Усюды настане спусташэнне і чалавек не пабачыць, не пачуе другой асобы. Палі зарастуць шыпшынай, дарогі і сцежкі пакрыюцца пустазеллем і цернямі бо не будзе, авечак каб выесці іх. Дзеўкі будуць смуткаваць, бо не будзе жаніхоў, жонкі будуць смуткаваць, страціўшы сваіх мужоў, дзяўчыны будуць смуткаваць, бо ніхто не паможа ім. Маладыя хлопцы загінуць у вайну, а жанатыя мужчыны памруць ад голаду. Няшчасці хутка набліжаюцца і неадкладна. Жанчына ў дзявятым месяцы вагітнасці некалькі гадзін будзе адчуваць родавыя схваткі, а калі прыйдзе пара, народзіцца дзіця, без адкладу. Гэтак жа беды, што надыходзяць на зямлю, не пойдуць у адклад, толькі свет будзе стагнаць, калі настане час яговых родавых схватак”.

Да ліку апакаліптычных кніг належаць таксама Сівіліны кнігі, напісаныя ў першых стагоддзях н.э. у басейне Міжземнага мора. „Набожныя і бязбожныя смяротныя пабачаць Усемагутнага са святымі ў канцы часу. І ў людзей цялесных ён асудзіць душы, калі калісь увесь свет спусташэ і зарасце цернямі. І смяротныя адкінуць сваіх куміраў і ўсё багацце. І праніклівы агонь спаліць зямлю, неба і мора, і спаліць брамы пекла. Тады з'явяцца целы мёртвых на від святых; і непакорных той агонь будзе апякаць гадамі. Калі хто што зробіць патайком, той усё выявіць; Бог раскрые цёмныя душы. І плач будзе адусюль і скрыгат зубоў. Сонечны свет сцямнее, неба згорнецца і месяц перастане свяціць. І ўзніме даліны і разрушыць высату гор, і не будзе высот. І ўзгоркі з раўнінамі зраўняюцца, і не будзе мора. Трубы з нябёс вынясуць пранізлівы гук, завые агідны лямант подлых людзей і сусветнай бяды. І з неба паплыве паток агню і серы. (...) І несмяротны Бог, што жыве ў высотах, спусціць з нябёс маланкі на галовы нячыстых. І заміж зімы стане лета. І смяротным настануць вялікія пакуты. Грамавержац поўнасцю знішчожыць бессаромных ды грамамі і маланкамі каварных людзей. І знішчыць бязбожных, і больш на зямлі астанецца мёртвых чым пяску...”.

Не толькі ў басейне Міжземнага мора вяшчалі апакаліпсіс. У 22-й суры Карана таксама пра яго мова: „Калі вы сумняваецеся ў васкрэсенні — то ж Мы стварылі вас з зямлі, пасля з кроплі семені, пасля са згустка крыві, пасля з кусочка сфармаванага і несфармаванага цела. Мы пакідаем ва ўлонні тое, што хочам да пазначанай пары. Пасля выводзім вас дзяцьмі і выводзім вас у дарослых. Адны ўміраюць, а іншыя вяртаюцца ў бездапаможную старасць і забываюць усё, што ведалі. Бачыце засохлую зямлю, але калі Мы пашлём на яе ваду, яна ажывае, набрыньвае і родзіць розныя прыгожыя расліны. Гэта адбываецца таму, што Алах з'яўляецца Ісцінай, ажыўляе мёртвых і Ён усёмагутны. І калі Пара несумненна надыдзе, Алах уваскрэсіць усіх у магілах. Сярод людзей ёсць такі, які спрачаецца пра Алаха, без ведаў, без вернага настаўлення і без асвячаючага Пісання. Ён напышліва адварочваецца, каб звесці з дарогі Алаха. Яму нарыхтавана ганьба ў гэтым свеце, а ў Дзень васкрэсення Мы дамо яму пакаштаваць пакут ад спапаляючага агню. Яму будзе сказана — Гэта за тое, што нарыхтавалі твае рукі; Алах не крыўдзіць рабоў сваіх. (...) А тых, якія паверылі і тварылі праведнае, Алах увядзе ў Райскія сады, дзе цякуць рэкі...”.

Яшчэ пра Італію, з Сівіліных кніг: „З глыбокіх расколін італьянскай зямлі выйдзе агонь у шырокае неба і спаліць многія гарады і разбурыць. І чорны попел запоўніць шырокае неба і кропелькі распаленай зямлі ўпадуць з неба. Тады знай гнеў Бога з Нябёс на тых, хто без дай прычыны губіць набожныя народы...”.

Гэта, мабыць, не пра спадзяваныя тыранячыя Італію пошасці1348 і 2020 гадоў, толькі пра ранейшае вывяржэнне Везувія, з 79 года н.э. А пра нашы справы апакаліптычныя кнігі, як мне здаецца, яшчэ не напісаны...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

ISSN 0546-1960